

Песні з Ласінкі → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Справа Жукаўца → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3014) Год LIX | Беласток, 16 лютага 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**17.02.2014 г. мінае першая гадавіна смерці САКРАТА ЯНОВІЧА. Вашай увазе прапануем інтэрв'ю, якое Сакрат Яновіч даў Юрку Ляшчынскаму 29.10.1991 года для беларускай радыёперадачы «Пад знакам Пагоні» ў Радыё Беласток.**

# У Беларусі не народ стварае дзяржаву, а дзяржава народ

Юрка Ляшчынскі: **— Калі гаворым пра асобу Сакрата Яновіча, тады асацыюецца ён на так з беларускай палітыкай ці ўсё-такі з літаратурай?**

Сакрат Яновіч: — Я думаю, што я — літаратар. Я хачу быць літаратарам, я ім з'яўляюся і цвёрда пастанавіў, што ім буду. Палітыка гэта мая прыгода. Палітыка гэта нешта такое, што ўварвалася ў маё жыццё недзе скажам дзесяць гадоў таму назад, мо і раней трохі, і я быў прымушаны займацца палітыкай, прымусілі акалічнасці. Я скажу так, бо не было каму лепшаму за мяне займацца палітыкай, таму я стаў палітыкам. Але ў мяне таленту палітыка няма. Я дастаткова стары, каб ведаць, што ў мяне ёсць талент літаратара, талент пісьменніка.

**— Давайце тады пагутарым пра літаратуру. Прыгода з літаратурай пачалася ў Вас з юнацкіх гадоў.**

— Наколькі памятаю, сапраўды, пачаткі былі ў канцы дзяцінства ці юнацтва, пад канец пачатковай школы, калі хадзіў у шосты ці сёмы клас. Тады пачаў пісаць вершы, бо так заўсёды бывае на пачатку, што ўсе пішуць вершы хто думае займацца літаратурай. А пасля толькі адны перастаюць пісаць, другія пішуць далей. Трэба было напісаць тут для нашага палітычнага руху нейкі гімн. І сталася так, як нярaз у маім жыцці бывае, што выконваю тое, чаго не хачу, а што ёсць патрэбнае. З маёй палітычнай дзейнасцю так сталася як з гэтым гімнам. Я такі гімн напісаў пад загалоўкам «Беластоцкая прысяга»

*Не просім ласкі ані змілавання,*
*Самі мы возьмем лёс нам належны,*
*Будзем народам, бо айчыну маем,*
*На век беларускім свету незалежным.*
*На памяць продкаў усе даем прысягу,*
*Не гнуць каленяў у часы трывогі,*
*Доля нам не пані, за нашу знявагу,*
*Ганьба і пагарда, хай ратуюць Богі.*
*Крыўдзе не дамося, прэч адгонім ліха,*
*Пойдзем мы шляхамі да жыцця і славы,*
*Разам і наперад, хто сядзіць там ціха...*
*Наш штандар высока і трубяць фанфары.*
*Не просім ласкі ані змілавання,*
*Самі мы возьмем лёс нам належны,*
*Будзем народам, бо айчыну маем,*
*На век беларускім свету незалежным.*

Во такі гімн напісаў я на зломе васьмідзесятых і дзевяностых гадоў, калі мы ўсе ішлі ў палітыку. Стваралі сваю партыю БДА ці ішлі на выбары.

**— А літаратура? Яна заўсёды была з Вамі?**

— Я пачаў існаваць у літаратуры недзе ў пачатку 60-х гадоў, калі з'явіліся мае тэксты, мае творы, якіх я і сёння, калі часам чытаю, не саромеюся. Гэта па прычыне, што яны добрыя на маё адчуванне, на мой густ, вядома. А ўсё папярэдняе, што я напісаў у пяцідзесятыя гады, гэта былі зялёныя рэчы, тэксты вельмі зялёныя, няспелыя, што зрэшты і не дзіва, бо я тады меў дваццаць гадоў з лішнім. Што чалавек можа ведаць і разумець у такім узросце? Ну, вельмі мала.

Літаратуры патрэбнае жыццё, вопыт. Трэба трохі пажыць на свеце, бо кніжкі трэба чытаць, але ад самога чытання кніжак чалавек яшчэ не здабывае той разумнасці, якая патрэбная ў літаратуры. Каб пісаць творы, трэба мець ужо нейкае, такое глыбейшае, я б сказаў, разуменне жыцця чалавека.

**— Маеце за сабою некалькі дзесяткаў творчых гадоў, але многім чытачам, а і мне таксама, найбольш вядомыя Вашыя мініяцюры, не апавяданні ці драмы.**

— Таму, відаць, што яны мне найлепш удаюцца і што ў мініяцюрах спраўдзіўся найлепш мой літаратурны талент. Я і сам ад нейкага часу ўсведамляю сабе, што калі што-небудзь застанецца з маёй творчасці, калі што-небудзь перажыве самога мяне, то гэта мініяцюры. Хоць на пачатку гэтых дваццаці з лішнім гадоў чалавек не мае і не можа мець аж так яскравай свядомасці ў чым ён менавіта найлепшы. Таму на пачатку трэба спрабаваць сіл у розных жанрах літаратурнай творчасці. Я таксама гэта рабіў. Напісаў некалькі аповесцей, два раманы, шэраг драматычных твораў, але час паказаў, што я павінен пісаць перадусім мініяцюры. Большую, як кажуць, палову жыцця маю ўжо за сабою. Ужо мне трэба жыць ашчадна, трэба лічыць свае сілы, якіх засталося не так многа. І таму мне трэба канцэнтравацца на гэтым адным.

**— Часта ў Вашых творах праяўляецца матыў Крынак, малой бацькаўшчыны.**

— Крынкі гэта мая родная мясціна, мая малая айчына. У Крынках я пазнаў свет. У Крынках я пазнаў смак хлеба і смак вады, смак матчынай ласкі, смак бацькоўскай апекі, смак сяброўства, навукі, кніжак... Усё пачыналася ў Крынках. У Беластоку я толькі жыву. У Беластоку я апынуўся толькі таму, што ў Крынках не было для мяне хлеба. І нічога па-за гэтым. З кожным пісьменнікам так ёсць, што піша пра сваю родную ваколіцу. Адам Міцкевіч пісаў пра Навагрудчыну, бо ён ад Навагрудка. Таксама Аляксандр Пушкін пісаў пра Санкт-Пецярбург і Пскоўшчыну, бо ён адтуль. І ў кожнага аўтара ёсць гэта малая айчына. Я з Крынак узяўся і ў Крынкі ўсё свае жыццё вяртаюся. Хоць цераз, скажам, амаль паўвеку, калі я знаходжуся ў Крынках, а ў Крынках знаходжуся часта, я ў іх зноў пачынаю жыць так напалову, бо Крынкі мне ўжо робяцца чужымі. Яны ўжо вельмі апалячаны, ужо змяніўся дух. Я ўжо там пачынаю быць чужым чалавекам. Прыходзіць ужо новае пакаленне, якое ўжо не ёсць беларускае. Я ўжо з ім не маю паразумення, не маю кантакту, я ўжо ім як бы чужаземец. І гэта ёсць мая драма, але не толькі мая. Гэта драма цэлага майго пакалення беларусаў, якія робяцца такімі чужынцамі ў сваім доме.

**— Пару гадоў таму напісалі Вы славутую скаргу на гісторыю «Элегія беларуская». Ці сёння (маем канец 1991 года — аўтар) пагаджаецеся з напісаным тады?**

— І так, і не. Гэта значыць, што мы, беларусы, так адрозніваемся ад іншых народаў, што ў нас не народ стварае дзяржаву, а дзяржава стварае народ. У нашым выпадку гэта Беларуская Рэспубліка, ці яна хоча таго, ці не хоча, створыць і стварае беларускую нацыю. А не наадварот, як у палякаў, ці літоўцаў, дзе народ выходзіць на вуліцы тысячамі і мільёнамі, і стварае сваю дзяржаву, сваю незалежнасць. У Беларусі сотні тысяч, мільёны не выходзілі і не выйдуць на вуліцы, каб адбудаваць беларускую незалежнасць. Беларуская незалежнасць нам як бы лёсам, як бы гісторыяй пасланая, як бы гэта была расплата гісторыі перад намі. Гэтай вяльможнай пані, якая дае нарэшце справядлівасць нашаму народу за вякі прыніжэння, пераследу, знішчэння, знішчэння, бо ж мы, беларусы, знішчаныя гісторыяй, і як бы ў гісторыі абудзілася сумленне. Быццам яна падумала, што за ўсе пакуты, за ўсе вякі цэлыя гэтых смерцяў, пажараў, спусташэнняў дае нам сёння шчасце мець сваю дзяржаву, сваю незалежнасць, дае нам шчасце быць народам. Бо мы будзем народам ад гэтага моманту, калі Беларуская Рэспубліка стала незалежнай, то мы ўжо будзем народам, мы ўжо нікуды не падзенемся. Я нават скажу больш. Калі б мы нават і не хацелі быць народам, калі б мы нават плакалі, што не хочам быць народам, што не хочам быць беларусамі, то мы ўжо і так імі будзем, бо ёсць Беларуская Дзяржава. Нарэшце!





# Алімпійскія эмоцыі

У Расіі пачалася алімпіяда. Скандальным гэтае шоў стала задоўга да свайго пачатку, і невядома якія сюрпрызы яно прынясе бліжэй да канца. Але адно ўжо стала відавочным — расійская ўлада, як і чакалася, на поўную сілу выкарыстоўвае алімпійскія гульні для прапаганды і праслаўлення сябе любімай. Галоўны герой алімпіяды — расійскі прэзідэнт. Яго вобраз не пакідае блакітных экранаў тэлевізараў, як здзек са змагароў за чысціню спорту, якія безвынікова з году ў год стараюцца давесці да слыху і розуму ўплывовых асоб ад спорту, што правядзенне алімпіяд і іншых спартовых мерапрыемстваў планетарнага значэння ні ў якім разе нельга давяраць таталітарным рэжымам.

Гэты, пакуль што галоўны рэкорд па праслаўленні першай асобы краіны, які паставіў расійскі прэзідэнт, хутчэй за ўсё хутка будзе пабіты яго беларускім калегам. Ніхто не сумняваецца, што і ў Мінску на адкрыцці чэмпіянату свету па хакеі будзе такі салют, якому пазайздросціць нават піратэхнікі сочынскай алімпіяды. Ну а калі нешта пойдзе не так, ці не так пойдзе ўсё, то заранёў падрыхтаваныя тэлевядучыя ўсё адно пакажуць так, як трэба галоўнаму герою.

У наш тэхнагенны век людзі бачаць падзеі вачамі журналістаў. І часамі становіцца крыўдна, калі нейкі салют зацямняе сапраўды знакавыя падзеі. Уся планета ўжо ведае самыя нязначныя падрабязнасці нават ніжней бялізны спартовак, а вось каб даведацца што там зараз робіцца на кіеўскім Майдане, трэба добра пакапацца ў сусветнай павуціне інтэрнэта. Ёсць, зразумела, нават прамыя відэатрансляцыі з цэнтра Кіева. І многія сайты трымаюць гэтую тэму на кантролі як самую важную. Але гэта для людзей заангажаваных, якія адмыслова шукаюць такую інфармацыю. А вось галоўныя сусветныя тэлеканалы, якія глядзіць большасць людзей планеты, і якія фармуюць грамадскую думку, ужо згубілі вялікую цікавасць да ўкраінскіх падзей і пераключыліся на іншыя тэмы. Прынамсі да тае пары, пакуль там зноў не пачнуць забіваць. І часамі прыходзіш да высновы, што лягчэй з'ездзіць у Кіеў асабіста і паглядзець самому, чым скласці больш-менш поўны малюнак са скупых паведамленняў вялікіх агенцтваў. Уся ўвага пераключана на Сочы, дзе добра праінструктаваныя расійскія тэлеаператары нават Віктара Януковіча вырашылі не паказаць ані разу, каб гледачы ва ўсім свеце нават на хвілінку не ўспомнілі, што ёсць такая краіна, што Украінай называецца. І што там, у гэнай Украіне, павялічылася колькасць людзей, што ўжо ніколі не змогуць паглядзець алімпіяду, бо невядомы снайпер выбіў ім вочы гумовай куляй. А ёсць і такія кулі, што ўжо прабілі чалавечае сэрца. Там людзі працягваюць стаяць на марозе. Там узрываюцца каробкі з надпісам „лекі". І гэтыя „лекі" адрываюць людзям рукі...

Ад усіх гэтых эмоцый тэлегледачоў пазбавілі добра падрыхтаваныя расійскія тэлеаператары. А адказныя функцыянеры ад спорту, аслепленыя колькасцю ўкладзеных у алімпійскае шоў сродкаў, хіба што і надалей будуць працягваць ужо ўсталяваную практыку аддаваць правядзенне вялікіх спартовых мерапрыемстваў у тыя краіны, дзе правы чалавека лічаць прыдумкай слабакоў, а вязняў сумлення выпускаюць з астрогаў выключна для таго, каб заманіць на спартовае шоў іншаземцаў. Ну а самі спартовыя мерапрыемствы выкарыстоўваюцца для папулярызацыі гэтых рэжымаў.

Зрэшты, калі ісці па існуючай логіцы падзей, то наступную алімпіяду, ці хаця б якінебудзь чэмпіянат, трэба аддаваць менавіта Януковічу. Ну гэта калі яму ўдасца разагнаць Майдан і захаваць уладу, бо яму зараз як нікому трэба падняць свой рэйтынг. Ну а спартовыя мерапрыемствы да гэтага падыходзяць найлепей. Ён, канешне, яшчэ не дацягвае па ўзроўню таталітарызму да свайго расійскага калегі. І авіяцыю на Кіеў, як той на Грозны, яшчэ не пасылаў. Але гэта хіба толькі таму, што сам жыве ў тым Кіеве.

Ну а пакуль што вялікі спорт паказвае ўсяму свету, якая цудоўная ў Расіі сістэма ўлады. А хутка на чэмпіянаце свету па хакеі пакажа ўсе станоўчыя бакі беларускай рэчаіснасці. Так што, прыязджайце. Запрашаем.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ой, панна Юстына!

Працягваюцца Алімпійскія гульні. Зіма і ў субтрапічным Сочы. У Расіі. На цырымоніі інаўгурацыі не загарэлася адно алімпійскае кола. Адразу прасветліла прыхільнікаў тэорыі змовы. Ва ўсім свеце. Таму што гэтая няўдача відная і шырока каментуецца. Ну, русафобы маюць чаго паціраць рукі. Вось пацёмкінскі размах: згаслае кола і зялёны парашок, які робіць выгляд газонаў. Дрэвы пасаджаныя ў спешцы карэннем уверх і спустошаная прырода пакрытая бетоннымі кубамі, са святочным бляскам. І прытым сотні жыхароў алімпійскай сталіцы, выгрызеныя навекі вякоў з уласнай маёмасці ды падмануты тысячы будаўнікоў спартыўных аб'ектаў — выкарыстаных і пагнаных без заробку назад у Беларусь, Украіну і на Каўказ. Не кажучы ўжо пра незаконна прысвоеныя мільярды (таму што не маё), і постсавецкі будаўнічы стандарт: два ўнітазы ў адзін туалет, радыятары на столі, разбэрсаныя электрычныя разеткі... Адным словам — поўны беспарадак і савецкая ляпаніна. Ну, і гэтае кола... Дык што з гэтым колам?

Тым не менш, спартсмены прыехалі, каб змагацца за алімпійскія трафеі. Не колы ім у галаве. У першы дзень спартыўнай барацьбы паказала ільвіны кіпцюр Юстына Кавальчык. Яна мусіла быць моцна збянтэжанай алімпійскім саперніцтвам, што пры запуску на залаты медаль не спынілася нават пасля перасячэння фінішнай лініі на шостым, вельмі добрым месцы. На доказ таго, што першае было як рукой сягнуць, апублікавала анлайн рэнтгенаўскі здымак свайго ступака, які, нягледзячы на бачны на фота дэфект, акружыў свет. І гэта амаль за чвэрць гадзіны. Аднак, свет за ёю не паспеў. Затое салідарна над рэнтгенаўскім здымкам нахіліўся ўвесь заўзятарскі народ. Інтэрнэт-форумы нагрэліся да чырвонага. Усе тэлевізійныя станцыі прысвяцілі гэтай падзеі адмысловыя перадачы. Амаль што не прыйшлося склікаць майдану перад амбасадай Расіі. Чаму Расіі, дакладна невядома, але вядома, што калі якое-небудзь зло адбываецца для Польшчы, гэта з-за расійскай напыхлівасці. Хопіць толькі згадаць ганебны арышт смаленскага самалёта. Ці з-за нямецкай. Або з-за яўрэя Янкеля, які іграў на цымбалах гучней, чым Войскі на сваім крывым рагу. Ага, і плямісты той рог быў.

Але што я тут з Міцкевічам, які аб цымбалах, асабліва польскіх цымбалах аваладаў ведамі дастатковымі для таго, каб схаваць шчырае меркаванне пра іх у трынаццаціскладовым вершы. Гэта так, для асабістай бяспекі, паколькі, як ведаеце, артыкуляцыйны спектр польскіх траглядытаў не перавышае двух- з парывамі трохскладовай інвектывы. І дастаткова пра гэта. На шчасце ўспыхнутыя эмоцыі і варожасць асудзілі вячэрнія канкурэнцыі лыжных скокаў з трампліна. Нарэшце велічны прабел пасля адрачэння Адама Малыша заняў побач з бясспрэчнай Каралевай Зімы Юстынай Вялікім Ступаком, мужчына. Новы памазаннік — Каміль Стох. Несумненна, прыхільнікі сексуальнай сіметрыі ў грамадскім жыцці, гэта значыць, парытэту, уздыхнулі з палёгкай. Незанятае месца побач з каралевай біла ў яго залатое правіла: кожнаму полу пароўну. Толькі тая феміністычная ўспамога была ў апошнія гады настолькі моцная, што нават палітычныя басы і барытоны перастроіліся ў фальцэты ўсялякіх Гофманаў. Мужчынскі і ўсюдыісны голас Мацярэвіча не мае нічога тут супольнага. Бо слыхам, на жаль, не грэшыць. А шкада, таму што калі б ён пачуў, колькі шкоды зрабіў для польскай дзяржавы свaёй ідэалагічна-моўнай звышактыўнасцю, можа, нарэшце, змоўчаў бы. Але хопіць пра гэта таксама. Што тычыцца парытэту, чаго гарачай прыхільніцай з'яўляецца дэпутатка Кэмпа, ён выводзіцца з гендэрнага духу. Таго самога, якога яна з'яўляецца лютым ворагам. Аднак, і гэтага ўжо хопіць. Хоць грамадскую прастору здміналі звышстараныя альты і сапрана паняў Кэмпы і Паўловіч, то, вядома, чыстым кантральта ў распалітыкаваным хоры гучыць намесніца прэм'ера Бянькоўская. А ў спорце, адпаведна ёй, Юстына Кавальчык. Абедзве яны Вялікія, рэч не выклікае сумненняў. Хоць той апошняй варта нагадаць, што ў конкурсе, дзе перамог Каміль Стох, яго сапернік Моргенштэрн, пакалечаны перад Алімпіядай у некалькіх няўдалых выступленнях, не падтрымліваўся падчас скачкоў ніякім рэнтгенаўскім здымкам. Гэта не здымак дадае крылаў, а «Рэдбуль». Ой, панна Юстына!

**Міраслаў ГРЫКА**



### Вачыма еўрапейца

# Дзве прапановы

Час ад часу парламенцкая камісія нацыянальных і этнічных меншасцей наведвае Падляшскае ваяводства. У Беластоку яе члены сустракаюцца з прадстаўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцей, едуць у падляшскую глыбінку. Так было апошнім разам у палове кастрычніка мінулага года. Кожны раз «Ніва» паведамляе пра ход сустрэчы. Пішам аб заявах прадстаўнікоў меншасных асяроддзяў і дэкларацыях дэпутатаў (калі яны паяўляюцца). Ад папярэдняй выязной сустрэчы прайшло дастаткова многа часу, каб праверыць што далей з пастулатамі меншаснага боку. Па зразумелых прычынах я быў зацікаўлены беларускімі пытаннямі, якія абмяркоўваліся на мінулагодняй кастрычніцкай сустрэчы. Натрапіў я на два пастулаты. Першы з іх — у справе становішча беларускай меншасці ў Польшчы, адрасаваны прэм'ер-міністру Дональду Туску. Дэпутаты напісалі ў ім, у прыватнасці: «( ...) У апошнія гады наглядаем рэзкае зніжэнне колькасці людзей, заяўляючых аб сваёй прыналежнасці да беларускай меншасці. У перыяд паміж праведзенымі ў 2002-2011 гадах нацыянальнымі перапісамі насельніцтва гэты лік у Падляшскім ваяводстве (дзе пражывае больш за 70% польскіх грамадзян беларускай нацыянальнасці) знізіўся амаль на 20%. З экспертыз, прадстаўленых Камісіі, і меркаванняў прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і асоб, прадстаўляючых самаўрады рэгіёнаў, населеных беларускай меншасцю вынікае, што асноўнымі прычынамі хуткай асіміляцыі беларускай меншасці з'яўляюцца: адсутнасць перспектыў развіцця рэгіёна ў сувязі з яго перыферыйным размяшчэннем і існуючымі эканамічнымі і інвестыцыйнымі абмежаваннямі; функцыянаванне беларускай меншасці ў сітуацыі стыгматызаванай групы, што пры нізкай свядомасці ўласнай ідэнтычнасці, у якасці абарончых рэакцый сярод часткі гэтай супольнасці, узмацняе працэсы паланізацыі; расцярушанне і фрагментацыя арганізацый беларускага руху, што робіць цяжкім сфармуляванне агульнай пазіцыі па найбольш важных для абшчыны пытаннях; адсутнасць падтрымкі з боку ўлад Рэспублікі Беларусь, асабліва ў параўнанні з адносінамі іншых меншасцей з уладамі іх «другіх радзім» ці паланійных арганізацый з уладамі РП». Далей: «Камісія лічыць неабходным прыняць меры, каб спыніць працэс дэпапуляцыі тэрыторыі населенай беларускай меншасцю і спыніць далейшую паланізацыю гэтай супольнасці. У сувязі з гэтым Камісія звяртаецца з просьбай да спадара прэм'ера ахапіць гміны Гайнаўскага і суседнія гміны Бельскага, Сямятыцкага і Беластоцкага паветаў, дзе бачыцца найбольшая канцэнтрацыя беларускай меншасці, прадбачанай у дакументах Еўрапейскага Саюза і Стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства формай Абшарау стратэгічнага ўмяшання (АСУ) і праграмай Інтэграваных тэрытарыяльных інвестыцый (ІТІ).

Другі пастулат — у справе падзелу выбарчых акруг па выбарах дэпутатаў ваяводскага сейміка — парламентарыі накіравалі міністру адміністрацыі і лічбавізацыі. Тут, у сваю чаргу, можна прачытаць: «Цяперашні Выбарчы кодэкс ад 5 студзеня 2011 г. у артыкуле 462, пункце 3, гаворыць, што на выбарах у сеймікі ваяводстваў «аб'яднанне паветаў не можа парушаць сацыяльных сувязей, якія злучаюць выбаршчыкаў, належаўшых да нацыянальных або этнічных меншасцей, што пражываюць на тэрыторыі аб'яднаных паветаў».

Варта адзначыць, што цяперашні падзел Падляшскага ваяводства на выбарчыя акругі нязгодны са зместам гэтага правіла (...). Вынікам дзейнага падзелу з'яўляецца значнае паслабленне палітычнай пазіцыі беларускай і ўкраінскай меншасцей і змяншэнне шанцаў выбару сваіх прадстаўнікоў у сеймік ваяводства. Гэтая сітуацыя здаецца несці прыкметы наўмыснага дзеяння, каб паменшыць значэнне гэтых меншасцей. Члены нацыянальных і рэлігійных меншасцей неаднаразова выносілі гэтую праблему пры нагодзе розных магчымасцей. Заклікі да змены межаў выбарчых акруг не прыносяць ніякага эфекту. У гэтай сітуацыі, Камісія просіць міністра адміністрацыі і лічбавізацыі падтрымаць пададзеную прадстаўнікамі меншасцей прапанову стварыць выбарчую акругу, якая будзе складацца з Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў. Прапанаванае дзяленне будзе забяспечваць рэалізацыю дзеючага заканадаўства, таксама станоўча выклікаць і стымуляваць сацыяльнае, культурнае і палітычнае развіццё меншасцей пражываючых на Падляшшы».

Я не хачу быць благім прарокам, але ў мяне склалася ўражанне, што першы пастулат прападзе ў канцылярыі прэм'ер-міністра ў бездані соцень іншых дакументаў ці будзе адпраўлены адказнаму міністру.

У выпадку другога пастулата высновы, якія вынікаюць з яго, хутчэй трапяць да ваяводскіх радных Падляшскага сейміка, таму што менавіта яны вырашаюць аб падзеле на выбарчыя акругі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Песні беларусаў з-пад Лядскай пушчы

**Наш беларускі фальклярыст і гісторык Дарафей Фіёнік разам з дзеячамі Музея малой айчыны ў Студзіводах запісвае даўнія песні Бельшчыны і Гайнаўшчыны і выдае іх на кампакт-дысках. У музычнай серыі паявіліся кружэлкі з песнямі з Гусакоў і Збуча. Выйшлі таксама кампакт-дыскі з даўнімі песнямі ў выкананні калектыву «Жэмэрва» са Студзіводаў. Кампакт-дыск «Песні беларусаў з-пад Лядскай пушчы. Надзея, Марыя і Уладзімір Дзмітрукі» — гэта новае музычнае выданне Студзіводскага музея, якое змяшчае песні, запісаныя ў спадарства Дзмітрукоў з Ласінкі.**

— Тут мясцовыя называюць сябе падляшанамі і нават калектыў з Гарадзіска ўзяў сабе назву «Падляшанкі». «Жэмэрва» была ў «Крыўчанак» (з Крыўца, якія пасля пераўтварыліся ў «Падляшанак» з Гарадзіска — А. М.) у 2006 годзе і ў Доме праваслаўнай культуры ў Крыўцы вучылася тамашняга спеву ды запісала многа песень. Нідзе няма так вялікай колькасці песень, як пад Лядскай пушчай. У Піліпаўку ў гэтым жа годзе мы заязджалі таксама да Марыі Дзмітрук з Ласінкі, дзе тады і ў пачатку наступнага года запісалі каля 70 песень. Мы любім гэтую тэрыторыю і вясной мінулага года мы вадзілі карагоды ў Тыневічах, Пухлах, Скарышэве, а летам выступалі ў Соцах. «Жэмэрва» ахвотна спявае песні з-пад Лядскай пушчы і яны ўжо будуць жыць сваім жыццём. Калі мы іх выконвалі ў Познані ці ў Грэцыі, то гаварылі адкуль гэтыя песні, — сказаў Дарафей Фіёнік, звяртаючыся да сабраных у прыгожа адрамантаванай вясковай святліцы ў Ласінцы, дзе Студзіводскі музей у супрацоўніцтве з Нарваўскім асяродкам культуры наладзіў 1 лютага адмысловую вечарыну, прысвечаную фальклору беларусаў Падляшша і Палесся.

— Сённяшняе мерапрыемства — гэта міжнародная імпрэза. Песні і культура не ведаюць межаў, яднаюць людзей з розных краін, а тут жа выступаюць беларусы з Польшчы і Рэспублікі Беларусь, — гаварыў Дарафей Фіёнік.

У час сустрэчы прэзентавалася кружэлка «Песні беларусаў з-пад Лядскай пушчы. Надзея, Марыя і Уладзімір Дзмітрукі». Самастойна і разам з міжнароднай кампаніяй з даўнімі песнямі выступіла перад сабранымі Марыя Дзмітрук з Ласінкі. На жаль, памерлі ўжо яе муж Уладзімір і цешча Надзея, якіх галасы запісаны на кружэлцы.

— Песні — гэта мае візіткі. Я вельмі люблю іх спяваць. Людзі мне гавораць, што мае песні — гонар Ласінкі, — сказала Марыя Дзмітрук і падзякавала Дарафею Фіёніку і Студзіводскаму музею за выданне кружэлкі. — Я з ранняга дзяцінства вельмі любіла спяваць і з песнямі гадавалася. Хацела нават пайсці вучыцца ў музычную школу, але не атрымалася. Калі прыехаў да нас Дарафей Фіёнік, мы ўсёй сям'ёй наспявалі яму многа песень. Песня ўдала выступілі з мужам на двух фестывалях у Студзіводах. Была я вельмі рада, калі Дарафей паведаміў, што выдаў кружэлку з нашымі песнямі.

— На кампакт-дыску «Песні беларусаў з-пад Лядскай пушчы» запісана 27 песень. Сярод іх ёсць вяснянкі, сенакосныя і жніўныя творы, песні, якія выконваліся ў час хрышчэння дзіцяці, ёсць таксама балады, прыпеўкі і гумарыстычныя песні, якія спяваліся ў нашых вёсках. Да кружэлкі мы далучылі кніжачку, якая змяшчае частку магістарскай працы, прысвечанай абрадам каляндарнага года, аўтарства дачкі спадарыні Марыі, Эміліі Дзмітрук, выпускніцы беларускай філалогіі ва Універсітэце ў Беластоку, — удакладніў Дарафей Фіёнік.

У Ласінцы ў мінулым, так як і ў іншых многіх нашых вёсках, маладыя любілі паспяваць, летам на лавачках, а зімой у хатах. Спявалі таксама ў час сямейных урачыстасцей, вяселляў, хрысцін, ці адпраўляючы хлопцаў на вайсковую службу. Цяперашнія жыхары Ласінкі таксама вылучаюцца вакальнымі здольнасцямі, якія прэзентуюць хаця б у царкоўным хоры. Моладзь выступала ў музычных калектывах і спявае пры розных нагодах. Многа старэйшых жыхароў гэтай вёскі, распаложанай на тэрыторыі былой Лядскай пушчы, прыйшло ў вясковую святліцу, каб паслухаць песні з мінулага і паглядзець выступленні калектываў, якія прэзентавалі фальклор з Падляшша, Палесся і іншых рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь. На мерапрыемства прыбылі настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Ласінцы протаіерэй Юры Кос і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нарве Агата Смактуновіч. Сярод публікі былі таксама маладыя жыхары Ласінкі і навакольных сёлаў, мясцовыя дзеткі і выхадцы, якія зараз пастаянна пражываюць у гарадах. Дарафей Фіёнік цёпла прывітаў таксама Сцяпана Копу, якога прадставіў сабраным, як свайго пабраціма па збіранні і выдаванні беларускага песеннага фальклору. Удакладніў, што Сцяпан Копа выдаў ажно 9 кніжак з фальклорнымі песнямі, запісанымі на тэрыторыі кампактна заселенай беларусамі.

— Я таксама запісваў песні ў спадарства Дзмітрукоў у Ласінцы ў 1980 і 1997 гадах. Асабліва цудоўны і моцны голас быў у Марыі Дзмітрук, які захаваў сваю моц па сённяшні дзень. Ад Марыі і Уладзіміра Дзмітрукоў і ад яго мамы Надзеі я запісаў тутэйшыя песні. На жаль, не ўдалося іх выдаць, але ў мяне ёсць запісаны даўнія творы з іншых вёсак Нарваўскай гміны, якія варта было б выдаць пад адной вокладкай, — сказаў у час спаткання фальклярыст Сцяпан Копа, былы інструктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку.

Спатканне пачалося з калядавання ў выкананні сабраных калектываў. Затым фальклорны рэпертуар выконвалі калектывы «Жэмэрва» са Студзіводаў, «Падляшанкі» з Гарадзіска. Песні з Кобрыншчыны запрэзэнтавалі дзяўчаты з Узорнага дзіцячага калектыву «Таўкачыкі» Дзіцячай школы мастацтваў з Кобрына. Цікавы фальклорны рэпертуар з Беларусі прадставіла таксама трыо з калектыву «Гаманіна» з Мінска. Інструментальны акампанемент састаўлялі капэла калектыву «Таўкачыкі», Дарафей Фіёнік на акардэоне, якому дапамагалі скрыпачкі з «Жэмэрвы».

— У нас, на Палессі, і тут, на Падляшшы, аднолькавая культура і аднолькавыя песні. У нас падобныя дыялекты адной мовы. Культура не ведае межаў, таму «Таўкачыкі» наладзілі супрацоўніцтва з калектывам «Жэмэрва» са Студзіводаў, — заявіла Наталля Буневіч, кіраўнік калектыву «Таўкачыкі», у якім займаецца ажно каля 60 маладых асоб.

З Кобрына ў Ласінку прыехалі спевакі, музыканты і танцоры, якія паказалі вялікае майстэрства. У мінулым годзе «Таўкачыкі» адзначалі 10-гадовы юбілей, на які запрасілі «Жэмэрву». Дарафей Фіёнік заявіў, што абмен паміж «Таўкачыкамі» і «Жэмэрвой» адбываецца з удзелам сем'яў дзяўчат і хлопцаў, якія займаюцца ў калектывах.

У праграме музычнага мерапрыемства ў Ласінцы не было выступу жанчын з калектыву «Гаманіна» з Мінска, якія прыехалі ў Ласінку па ўнутраным патрабаванні. Мне запамятаўся выступ вакальна-інструментальнага калектыву «Гаманіна» ў мінулым годзе ў Войшках, які прывёў публіку ў захапленне.

— Інфармацыю, што ў Ласінцы адбудзецца фальклорнае мерапрыемства, мы знайшлі на фейсбуку і спыталіся ў Тамаша Сулімы (са Студзіводскага музея — А. М.), ці маглі б прыехаць сюды і выступіць. Калі мы выязджалі з Мінска, у нас было дваццаць градусаў марозу і бушавала завіруха. Аднак мы не спалохаліся дрэннага надвор'я і прыехалі да вас, бо хацелі ўключыцца ў міжнародную кампанію, якая сёння выступае з народнымі песнямі і танцамі. Намі тут добра заапекаваліся, мы выступаем і вельмі рады, што можам паслухаць спеву ў выкананні Марыі Дзмітрук і жанчын з калектыву «Падляшанкі» — аўтэнтычных носьбітаў фальклору, — сказала Наталля Сазановіч, кіраўнік калектыву «Гаманіна» з Мінска.

З ходам мерапрыемства яго атмасфера станавілася штораз больш адкрытай. Пасля спеваў і размоў моладзь з «Жэмэрвы», спевакі і танцоры з калектываў «Таўкачыкі» і «Гаманіна» сталі вучыць сабраных народным беларускім танцам.

Прадбачаецца выданне Студзіводскім музеем чарговай кружэлкі, на гэты раз з вясельнымі песнямі з Ласінкі і наваколля.

— Мы сабралі багаты вясельны матэрыял. «Жэмэрва» разам з «Крыўчанкамі» падрыхтавалі народны абрад «Падляшскае вяселле», — сказаў Дарафей Фіёнік.

Да танцораў са Студзіводаў і Рэспублікі Беларусь сталі далучацца мясцовыя. Ахвотныя гулялі пад акампанемент капэлы з Кобрына і музыкантаў са Студзіводаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



Самастойна і разам з міжнароднай кампаніяй (справа «Жэмэрва», а злева «Таўкачыкі») з даўнімі песнямі выступіла Марыя Дзмітрук з Ласінкі



«Падляшанкі» з Гарадзіска



Інструментальны акампанемент састаўлялі капэла калектыву «Таўкачыкі» і Дарафей Фіёнік на акардэоне, якому дапамагалі скрыпачкі з «Жэмэрвы»

## Вяртаючыся да нечыстотаў...

Пасля шасцімесячнай рэалізацыі закону аб гаспадарцы нечыстотамі Чаромхаўская гміна зрабіла падлік коштаў. Вось які вынік атрымаўся.

Аплатай за вываз нечыстотаў абцяжараны 1 224 гаспадаркі. Пры гэтым дэкларацыю аб селектыўнай зборы, па стаўцы 13 зл., прад'явіла 304 уласнікаў маёмасці, што складае ўсяго толькі 25% ад агульнага ліку гаспадарак. Апошнія за вываз змешанага смецця павінны плаціць па 18 зл. штомесячна. Рахунак у гміннай касе павінен быць аплачваны штоквартальна. Паводле дакументаў за мінулыя паўгода ў гмінную касу павінна паступіць 114 882 зл. Паступіла 105 873, 64 зл. Пратэрмінаваных застаецца 9 008,36 зл. За вываз нечыстотаў гміна заплаціла Гайнаўскаму камунальнаму прадпрыемству 108 025,44 зл. Такім чынам «даплаціла» да гэтай здзелкі 2 151,80 зл., не лічыўшы кошту працы чыноўнікаў і высылкі напамінаў. А такіх было аж 212. У гэтай арыфметыцы найбольш пакрыўджанымі аказаліся адзінокія асобы, састарэлыя хваравітыя пенсіянеры. А такіх аднаасабовых гаспадарак ва ўсёй гміне налічваецца 338. Чаромхаўскія радныя неразважліва прынялі стаўку 13 зл. і 18 зл. «ад коміна». Найбольш лагічным варыянтам стаўкі, на маю думку, павінна быць аплата залежная ад колькасці пражываючых у гаспадарцы асоб. Так рашылі радныя ў Кляшчэлях. Лагічна, бо адна асоба не вырабіць столькі адходаў, колькі двое, трое або пяць чалавек. Ці нешта зменіцца ў Чаромхаўскай гміне наконт назначаных ставак? Пэўна не. Як сказала скарбнік гміны Міраслава Кандрацкая-Найбук, другіх таргоў па выбары прадпрыемства для вывазу нечыстотаў не будзе. Аб стаўках рашаюць радныя. А гэтыя не спяшаюцца нічога мяняць, паколькі большасць абраннікаў выказваецца за абавязваючымі стаўкамі. Відаць, адзінокія ўладальнікі маёмасці, як тыя агульнавядомыя «дзеткі і рыбы», голасу не маюць.

**Уладзімір СІДАРУК**

## На вакзале ПКС

На беластоцкім вакзале ПКС ёсць падземны тунель, з якога ўсходы вядуць уверх у напрамку аўтобусных стаянак. Тут на сцяне сям-там віднеюць нумары стаянак, каб пасажырам лёгка было знайсці стаянку «свайго» аўтобуса. На жаль, шмат дошак з нумарамі ад 1 да 24 хуліганы сарвалі або закрэмзалі іх так, што не прачытаць. Не адшукаць нумароў 4, 5, 6, 7, 8 і 9. Ёсць толькі нумары 1, 2 і 3 ды 10, 11, 12 і як апошні 16.

1 лютага г.г. я ішоў падземным калідорам і ўбачыў таблічку з лічбай 16. За ёй дзве наступныя 17 і 18 саскрэблі хуліганы. Пасажыры нервуюцца і подбегам шукаюць патрэбных ім нумароў. Зараз некаторыя пасажыры не ідуць тунелем, каб паспець на «свой» аўтобус. Прытым гэта можа быць апошні аўтобус, каб даехаць дамоў!

Ці так павінна быць на вялікім, прыгожым і функцыянальным вакзале ПКС у ваяводскім горадзе? Праўленне ПКС у Беластоку павінна неадкладна паклапаціцца пра новыя дошкі ў месцы сарваных і ўжо неіснуючых!

**(яц)**




# Застаўся непрыемны асадак

Пагашэннем, значыць, адменай папярэдняга прысуду суда папярэдняй інстанцыі скончыўся 6 лютага, працягваючыся трынаццаць гадоў, працэс беларускага прадпрымальніка і актывіста апазіцыі Андрэя Жукаўца. Стала гэтак у сувязі са састарэннем у Беларусі меркаванага махлярства на агульную суму амаль 700 000 долараў двум банкам, на якія ён быццам бы ў гэтай краіне сабе дазволіў. Аднак старшыня судзейскага складу, абгрунтоўваючы прысуд, сказаў, што махлярства выразна адбылося, і апытанне сведак у Беларусі, а і апошнія рэчавыя доказы былі сабраны ў справядлівы і годны даверу спосаб, што выклікала шмат спрэчак.

Нагадаем, што ў адпаведнасці з рашэннем Раённага суда 30 красавіка мінулага года, Андрэй Жукавец быў прыгавораны да трох гадоў абсалютнага пазбаўлення волі і 15 000 зл. штрафу. Польскія праваахоўныя органы зацікавіліся ім у 2001 годзе, і тады быў арыштаваны. Знаходзіўся ў арышце больш за восемдзесят дзён, дзе ў пратэсце прыняў галадоўку. З пачаткам абараняўся, што справу супраць яго зрабілі беларускія службы за яго апазіцыйную дзейнасць (ён быў сябрам «Маладога фронту», падтрымліваў магілёўскі Цэнтр па правах чалавека, у яго суполцы таксама выпускалі серыю агітацыйных матэрыялаў шмат беларускіх партый і недзяржаўных грамадскіх арганізацый). Польскае судаводства не выдала яго Беларусі, таму што там не меў бы ніякіх шанцаў на справядлівае судовае разбіральніцтва. Беларускія органы пераследу перадалі свае матэрыялы ў пракуратуру ў Беласток (таму што тут яго спынілі), і тая пасля доўгага расследавання абвінаваціла бізнесмена ў нібыта махлярстве пры атрыманні крэдыту ў беларускім банку. Як дырэктар і акцыянер таварыства з абмежаванай адказнасцю, меў ён у 1994 годзе два разы прывесці да нематазгоднага размеркавання маёмасці і ўвядзенне працаўнікоў банка ў зман. У ходзе перагавораў быццам бы выкарыстоўваў падробленыя дакументы. Андрэй Жукавец падкрэсліў, што першапачаткова вылучана была супраць яго адзіная скарга нямэтавага выкарыстання крэдыту і справа была спынена. Пачалі яе зноў толькі ў 1999 годзе, калі ва ўладзе ўзмацніўся Аляксандр Лукашэнка, а Жукавец пачаў дзейнічаць у апазіцыі. Крэдыт пагасіў, але рэжым ліквідаваў яму фірму і сфабрыкаваў доказы супраць яго. У яго не было выбару, і ён збег у Польшчу.

Ад прысуду Раённага суда адклікаўся і ён, і яго абаронцы з юрыдычнай варшаўскай фірмы (прыступілі да разгляду справы без ганарару). Падчас разгляду апеляцыі абарона сцвярджала, што ў гэтым выпадку не была выканана гэтак званая ўмова двайной злачыннасці.



— Несумненна, што сёння за злачынствы, якія прыпісваюцца абвінавачанаму, не можа ён быць прыцягнуты да адказнасці ў Беларусі, таму што там яны састарыліся, — даказваў праф. Яраслаў Маеўскі, абаронца абвінавачанага.

Чытаючы абгрунтаванне прысуду, суддзя Кшыштаф Камінскі заявіў:

— На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь састарэнне злачыннасці гэтых актаў наступіла ў лістападзе 2009 года.

Андрэй Жукавец сфармуляваў трыццаць абвінавачанняў і абскардзіў яго ў поўным аб'ёме. Ён абвінаваціў суддзю абвяшчаючага пакаранне ў Раённым судзе, у прыватнасці, у адсутнасці бесстароннасці, абапіранне на ненадзейных копіях дакументаў, допыт сведак без яго прысутнасці. Ён скардзіўся, што, напрыклад, абмяжоўвалася ягоная магчымасць абароны — не змог прыняць удзелу ў дзеяннях, якія праводзіліся польскім судом у Беларусі, па зразумелых прычынах не мог туды паехаць. Суддзя Камінскі абвінавачванні Андрэя Жукаўца палічыў памылковымі. Ён сказаў, што суд першай інстанцыі зрабіў усё, што мог — зваў сведак, арганізаваў тэлеканферэнцыі з імі, і толькі тады, калі ўсё падвяло, пацягнуўся да інстытута юрыдычнай дапамогі. Добра ведаючы пра тое, што абвінавачаны не зможа туды паехаць, дазволілі яму сфармуляваць пытанні для сведак, чым Андрэй Жукавец не пакарыстаўся. У канцы суддзя не пакінуў ніякіх ілюзій:

— У святле доказаў бясспрэчна, што падсудны здзейсніў мерказаныя акты.

Ён спаслаўся таксама:

— Доўгі час працэдуры звязаны быў з аб'ёмам матэрыялу, складанасцю справы і яе незвычайным характарам. Але ў вялікай частцы і з высокай працэсавай актыўнасцю абвінавачанага — ён зрабіў больш дзесятка запытаў на выключэнне суддзі, якія павінны былі быць вырашаны рознымі судзейскімі складамі.

Прысуд Андрэй Жукавец прыняў неаднaзначна; запатрабаваў апраўдальнага прысуду. Пакінуўшы залу пасяджэння, сказаў:

— Гэтым рашэннем быў зачынены мне шлях да кампенсацыі. Як суддзя прызнаў, гэтая справа састарылася ў 1999 годзе. Дык чаму польская пракуратура аб тым не ведала, і ўзбудзіла справу ў 2001 годзе? Гэтае рашэнне — пат, як у шахматах. Беларускі бок задаволены, што беларускі апазіцыянер гэта падманшчык, я задаволены часткова, таму што скончыўся працэс, аднак, застаўся непрыемны асадак. Гэта было маральнае катаванне. Я буду прабаваць грамадзянскім шляхам даказаць, што былі людзі, якія фальсіфікавалі дакументы ў маім выпадку.

Назіраючы за працэсам дэпутатка ад ПіС Малгажата Гасеўская (у час абвяшчэння судовага рашэння быў таксама прысутны яе клубны калега дэпутат Пётр Пызік), выслухаўшы прысуд і яго абгрунтаванне, сказала «Ніве»:

— У мяне змешанае ўражанне. Я рада, што спадар Жукавец з'яўляецца свабодным чалавекам. З іншага боку, застаецца прыкрае ўражанне, галоўным чынам таму, што справа была праведзена, як заявіў суд, нягледзячы на яе састарэнне ў Беларусі. З іншага боку, прысуд пазбавіў яго магчымасці звярнуцца па кампенсацыю. Генеральна, суд заявіў, што справу спыняе, але спадар Жукавец вінаваты. Ды гэта не так. Суд не сумняваўся наконт дакументацыі прадстаўленай беларускім бокам, і нават у гэтым выпадку, што справу ў Беларусі вяла суддзя, якая апынулася ў спісе неўязных у ЕС за прысуды вынесеныя беларускай апазіцыі. Я не задаволеная рашэннем і мне сорамна за Польшчу. Мы, як палітыкі і журналісты, павінны ўважліва прыглядзецца таму, што адбылося ў Беластоку ў час гэтага працэсу і асобам, адказным за гэты працэс.

У сваю чаргу, у Анатоля Міхнаўца з Асацыяцыі за дэмакратыю ў Беларусі, які суправаджаў Андрэя Жукаўца ў працэсе, не было ніякіх сумненняў:

— Я перакананы, што Андрэй стаў ахвярай рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі і тут таксама кімсьці былі арганізаваны гэтыя гаценні.

Рашэнне з'яўляецца канчатковым.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Святло паэзіі Юрыя Баены

**З Беласточчыны беларускі паэт Юрый Баена даслаў мне ў Слонім свой новы паэтычны зборнік „Шкатулка святла”. Ён выдадзены за кошт сродкаў Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Зборнік выйшаў у бібліятэцы беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”.**

Пра што піша сёння 57-гадовы беларускі паэт? Што яго хвалюе, радуе, суцяшае? Аб чым думае наш творчы чалавек з Беласточчыны? А піша ён аб тым, аб чым пісаў і сорак гадоў таму. Праўда, тады чамусьці болей пісаў пра восень. Была яна ў яго такой, калі „пад нагамі залатыя лісты памяці шалясцяць несціханай просьбай”, калі ён, паэт, нёс „сум асенні, сваю боязь”. А цяпер? Цяпер „алеяй слёз самотная ідзе, на ўвесь свет галосіць восень, ніхто не адгукаецца”. Як бачыце, восень у вершах Юрыя Баены заўсёды сумная, тужлівая, адзінокая. Іншай паэт яе не бачыць. Няма ў Юркі Баены восені прасторнай, светлай, залатой. Магчыма, ён не любіць восені. А што з вясной? А вясной паэт захапляецца. Можа з-за таго, што ён нарадзіўся вясной — 24 сакавіка. Вясна ў паэта ніколі не бывае сумнай, яна ў яго параўноўваецца з каханай, якая „лашчыць далоні, вусны і твар...”. Вясна п’яніць аўтара, аблівае майскім даждажом, ён „асветлены знутры добрай надзеяй на доўгія леты”.

Прыгожа і светла піша Юрый Баена і пра зіму. У сваіх паэтычных радках паэт сцвярджае, што „няма нічога цішэйшага за снег, за белы далягляд, за каменны аледзянелы свет...”. Ён чуе, як яго сцяжынкі ўсцілае снег... Вельмі даспадобы паэту белы колер. Наогул, і пра гэта я шмат разоў пісаў, беларускія паэты вельмі любяць белы колер. Можна прывесці сотні прыкладаў, дзе паэты апяваюць белы колер. Дый у беларусаў не можа быць іншага ўлюбёнага колеру, бо белы колер у назве нашай дзяржавы Беларусь, у нашым сцягу бел-чырвона-белым, у назвах, — як піша паэт, — Беласток, Белавежа, Бельск..., таму „з чыстай белі, добры лёсе, засцілай абрусы”.

А вось пра сонечнае лета паэт згадвае мала. Хіба што пра лета ў Мокрым. Тым не менш, лета — не паэтычны вобраз Юрыя Баены. Але прыродаапісальныя вершы ў новым зборніку аўтара, дзе паэтызуецца вясна, восень і зіма прасякнуты апяваннем харастава прыроды, выяўляецца пяшчотная мяккасць інтанацый, лірычная настраёвасць, шматколернасць тэмбравай афарбоўкі. Вельмі радасныя, узнёсла-экспрэсіўныя мелодыі гэтых твораў нагадваюць нейкія своеасаблівыя канцэрты. Вершы паэта зліваюцца з элегічнымі нотамі чалавечай душы, якая знаходзіцца ў нейкім невыказным тамленні.

З чуллівай своеасаблівай самотай чытаюцца моцныя вершы Юрыя Баены, прысвечаныя маленькай радзіме — вёсцы Мокрае Бельскай гміны, дзе нарадзіўся паэт. У іх адчуваецца туга па маленстве, для якога родны кут — не больш і не менш, як яго ная дзяржава, „вытканая з зямных і нябесных нітак”. Ды не толькі аўтар зборніка заўсёды сумуе па маленькай радзіме, а па ёй з гадамі ўсё больш і больш сумуем мы ўсе. За нас, і я на ўсе сто працэнтаў пагаджаюся з Юрыем Баенам, штогод і заўсёды моляцца дарогі і сцежкі, сады, лугі, палі, каласы, рамонкі, бярозы, дубы, ясені, жаваранкі і буслы, вятры і росы, снягі і сонца, каб часцей мы вярталіся дадому:

*Вярнуўся я*
*як сын, як брат,*
*у абдымкі роднага*
*і харaства!*

Вёска Мокрае для Юрыя Баены не толькі ягоная дзяржава, але і светлы далягляд, бастыён. Мне здаецца, ніхто болей за Юрыя Баену і Віктара Шведа не апеў сваіх маленькіх радзім на Беласточчыне так, як апелі яны Мокрае і Мора. Так і просіцца сказаць Мокрае Мора, апетае паэтамі. На жаль, як піша аўтар, патрыётам Малой Айчыны гімнаў не граюць. Хаця Малая Айчына заўсёды нараджае сваіх патрыётаў. І гэта так.

У кожным сваім паэтычным зборніку Юрый Баена не абыходзіць тэму жыта і хлеба. Калі я пачынаю чытаць вершы пра хлеб ці пра жыта, мне заўсёды прыгадваюцца радкі Аляксея Пысіна: „Забыта многае ў жыцці, з дарогі зменена і змыта. Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта”. Пысінскай вечнасцю заўсёды напоўнены вершы пра хлеб аўтара кнігі „Шкатулка святла”. Паняцці хлеб, жыта, колас і ўсе вытворныя ад іх асацыяцыі і матывы — буйныя планы баенаўскай лірыкі, яе падаснова, яе чырвоны радок. Зборнікі ягоных вершаў без строф, адрасаваных хлебу і збожжу, проста не існуюць. Гэта святое:

*Калі ў руках нясу хлеб,*
*Я лепш разумею сябе.*
*Дзялюся хлебам —*
*Я лепш разумею жыцця сэнс.*
*Ем хлеб —*
*Я лепш разумею свет...*

Паэт спадзяецца толькі на хлеб, бо хлеб святая тайна чалавечнасці. І кланяецца ён менавіта хлебу, паважае яго, пяе яму гімны. А дзе хлеб — там і слова. Будзе хлеб — будзе і слова. Слова, як піша аўтар, гэта „святло ў вялікім, чорным, быццам смала, пакоі ночы”, „слова святое, нескаронае, вернае”.




Каму моліцца паэт? Паэт моліцца слову: „ля грані, нябыту і жыцця, цемры і святла малюся Табе, Магутнае Слова”. А са слоў складаюцца вершы:

*Першы верш — глыток вады.*
*Пах зямлі*
*І паветра.*
*Росны луг,*
*Над ракой світанак...*

А пасля нараджаецца паэзія перажывання, роздуму, надзеі, вобразаў. Навізна паэзіі Юркі Баены — у глыбока творчай здольнасці аўтара шукаць і знаходзіць на старыя пытанні не старыя адказы, насычаць іх новымі шматзначнымі ўяўленнямі пра свет, уласнымі назіраннямі, вопытам дарог, грамадзянскай мужнасцю пазнання яго набалелых праблем і шчаслівых радасцей. З характару вырашэння кроўнажыццёвых задач складаецца мікраклімат, тое духоўнае асяроддзе, якім жывём, ствараецца клімат часу, веку. Бо ў гэтым дапамагае паэзія:

*Паэзія — білет у шырокі свет.*
*Добрай Надзеі мыс,*
*хвалі акіяна...*

У новым зборніку паэта ёсць яшчэ адзін унікальны верш, які мае назву „За шчасцем” (па-беларуску правільна будзе па шчасце). Адзінаццаць радкоў у вершы, але пра іх можна разважаць доўга. Сюжэт яго такі: паэт бачыць, як грамада людзей стаіць у чарзе па шчасце, а ў той грамадзе тысячы людзей і ўсе хочуць дацягнуцца да шчасця. Тры дні яны стаялі і тры ночы. Сярод іх быў і аўтар, бо таксама захацеў шчасця. Ён так і піша: „я таксама там быў, горыч з келіха піў...”. Вось і ўсё шчасце.

Свой новы зборнік паэзіі Юрый Баена назваў „Шкатулка святла”. Шкатулка — гэта невялікая скрыначка для дробных, звычайна каштоўных, рэчаў. Дык што, акрамя вышэй пералічанага, схаваў у ёй аўтар? А схаваў ён — пацалункі жыцця. І працягвае пісаць „лісты без дат — вершы на ўсю вечнасць”, бо верыць, што ён, як паэт, на сваёй зямлі пакіне след. Яго пацалункі жыцця няпростыя, розныя, канкрэтныя, сімвалічныя, метафарычныя. Але ўсё гэта — ад роднай зямлі, усё — толькі яна. У вершах паэта больш за ўсё кідаецца ў вочы імкненне аўтара да гульні на кантрастах, на нечаканых паваротах думкі, на нюансах слова, якія асвятляюць, як маланкі, становячыся і тваім празрэннем, і тваім адкрыццём.

Вершы Юрыя Баены з новага зборніка „Шкатулка святла” хочацца чытаць і перачытваць. Вядома, не ўсе яны аднолькава моцныя. Ёсць у некаторых і свае слабасці. Але казаць пра іх — ці ж мае гэта сэнс, якім, звычайна, такая неабходнасць дыктуецца? Значыць, трэба ўсё прымаць як ёсць? Усё! Бо, чытаючы паэта, верыцца, што вось гэты імклівы рух, разварот, прага жыцця, адчуванне харaства Радзімы, прыроды, чалавечай працы, роднай мовы, слова, песні, — што ўсё гэта яшчэ працягнецца ў яго новых вершах і зборніках. Верыцца, што святло паэзіі Юрыя Баены будзе яшчэ доўга асвятляць нашы душы і сэрцы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Па гарачых слядах

У Гайнаўцы на галоўных вуліцах, між іншым, 3 Мая і Баторыя пабудавалі прыгожыя лёгкія (я яшчэ дадаў бы далікатныя) прыстрэшкі з лавачкамі на прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі на двух маршрутах № 1 і 2.

Адзін з такіх дашкаў знаходзіўся па вуліцы Баторыя каля рачулкі Лясная і побач скрыжавання з кругавым рухам. Пішу пра яго ўжываючы дзеяслова ў прошлым часе , бо тое, што зараз на тым месцы знаходзіцца, гэта... жалезная канструкцыя, памаляваная на чырвоны колер ды з пакручанымі абоймамі для шыб. Сценкі прыстрэшка былі з тоўстага шкла. Былі, але хуліганы шыбы пабілі. Стаяў я на гэтым прыпынку і чакаў „свайго” аўтобуса ў панядзелак, 9 снежня мін. г., але там немагчыма было схавацца ад напорыстага халоднага ветру.

Як бы яшчэ мала было гэтага вышэйзгаданага, вандалы вырвалі з моцнай жалезнай рамкі расклад язды прыгарадных аўтобусаў (яны ездзяць, між іншым, у Нараўку, у Бандары і ў Семяноўку ў Нараўчанскай гміне), які знаходзіўся высока на слупку (ён стаіць збоку прыстрэшка). Рамку тую ж, а як жа пагнулі, скруцілі. А расклад так патрэбны для ўсіх, хто адсюль мае ехаць!

З хуліганскімі выбрыкамі трэба змагацца. Хто гэтае злачынства бачыў і ведае яго „герояў”, павінен не скрываць іх а заявіць пра ўсё ў паліцыю. За рамонт прыстрэшка заплаціць ніхто іншы, а добрасумленныя жыхары горада. Гэта будзе з падаткаў, якія ідуць у бюджэт горада. Неабходна ўціхамірыць хуліганнё, даць бой яго выхадкам. Маем пазітыўны прыклад. Вось яно зараз пакінула збіваць рогі макетам зуброў, якія стаяць тут жа побач на правым беразе рачулкі.

## Іх трэба адрамантаваць

У Гайнаўцы ёсць многа прыгожых роўных тратуараў перш-наперш у цэнтры горада. З плітак і брусчаткі. Па іх прыемна і бяспечна хадзіць. Да таго побач тратуараў ёсць яшчэ вельмі прыгожыя драўляныя лавачкі (гэтак усяго ад пару гадоў). Але не ўсюды так добра.

Ухабістыя ды небяспечныя тратуары знаходзяцца па вуліцах, між іншым, Спартыўнай, Простай і Арміі Краёвай. Па вуліцы Спартыўнай раз’ехаўся тратуар на адрэзку ад аднаго мастка да другога мастка цераз рачулку Лясную. Тут пліткі бакавога радка нахілены да берага рачулкі. Калі тратуар будзе абледзянелы, тады лёгка скаціцца з дарогі на бераг рачулкі, а то і ў яе.

На вуліцы Арміі Краёвай на адным яе баку — тым ад гарадскога парку — тратуар салідна адрамантавалі. Ісці па ім любата. А насупраць яго, на другім баку вуліцы, тратуар стары, няроўны і сям-там патрушчаны. Цяжка па ім ісці ды і нагу можна ж скруціць. Дрэнны тратуар знаходзіцца таксама паабапал доўгай вуліцы Простай у пасёлку Пашкі. Радныя горада Гайнаўкі гэтага не заўважаюць?

Вышэйзгаданыя адрэзкі няроўных тратуараў неабходна неадкладна адрамантаваць. Яны псуюць агульны выгляд горада.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Канікулы па-эскімоску

У Крынскім доме культуры — дырэктарам якога з’яўляецца Альжбета Чарэмха, як на сапраўдным абрусе-самабранцы: гульні ў тэатр, мастацтва, рукадзелле, шэсць гмінных турніраў з узнагародамі, у тым ліку шахматныя і па тэнісе, модныя зумба і кулінарыя. А яшчэ спадарыня Эля начаравала маладым крынчанам паездку ў кіно ў Беласток і ў Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы. Усе заняткі вядзе яна асабіста, пры дапамозе спрактыкаваных сяброў. Добрыя знаёмыя не пакінулі спадарыню Элю з падапечнымі і 5 лютага. На той дзень запланавала яна казачны паход на сабачай вупражцы. Праблема ўзнікла толькі







з перавозам дзяцей на зборны пункт у Рахавіку пад Крынкамі. Не пашанцавала Альжбеце з гмінным транспартам, але ўсё ж такі дваццаць шасцёра жадаючых прыгод дзяцей адправілася туды на машынах сяброў дырэктаркі.

Спадарства Іаанна і Мацей Водзінскія, якія разам з дзяцьмі і трыццацю сабакамі ад нядаўна пражываюць у апусцелым Рахавіку, зусім бясплатна даставілі гасцям-суседзям шмат незабыўных уражанняў. Але ж і апошнім прыйшлося крыху выказацца. Да таго, каб сесці на сапраўдныя эскімоскія сані, неабходна было прайсці прафесіянальную падрыхтоўку — пазнаёміцца з сабакамі, а таксама даведацца як з імі сябе паводзіць. Навучыцца трэба было як апранаць сабаку ў спецыяльную вупраж і зімовую вопратку, а яшчэ ўдзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах, падрыхтаваных і праведзеных гаспадарамі. Усе крынскія госці паспяхова кваліфікаваліся на пасажыраў сабачага картэжу. Набегаліся ў той дзень і гаспадары, і іх сабакі. На вупражцы аднаразова маглі быць толькі вазак Мацей, званы тут машэрам — праваднíком сабак, і адзін пасажыр. Трэцяя асоба — ягоная жонка Іаанна — спатрэбілася для таго, каб разагнаць жывёл у канкрэтным напрамку і стрымаць іх у выпадку змены пасажыра. Хутка імчаліся сабакі па рахавіцкім заснежаным бездарожжы пад камандай любімага гаспадара. Спадарыня Іаанна патлумачыла, што іх падапечныя абучаюцца з выкарыстаннем англійскай і эскімоскай моў. Некаторыя з рахавіцкіх сабак выводзяцца менавіта з англамоўных краін, а мова эскімосаў гэта ўжо класіка жанру. Так давалі каманды сваім сабакам эскімосы тысячы гадоў таму. Гэта яны ўвялі традыцыю выязджаць на далёкія паляванні на сабачых вупражках. Па халоднай Алясцы, дзе тэмпература даходзіць да мінус шасцідзесяці градусаў, ні на машыне, ні на поездзе не перамесцішся. Там нават самалёты не далятаюць. Сабакі не баяцца марозу, да таго яны вельмі моцныя і хуткія, без іх там проста не абысціся. Потым сабачыя вупражкі прыняліся і ў суседняй Сібіры.

Статак спадарства Водзінскіх сапраўды міжнародны. Ёсць сабакі з Польшчы, Славакіі, а таксама з Нарвегіі — Мефіста і з Нямеччыны — Фіёна. Усе яны дагледжаны і добра навучаны.

Спадар Мацей займаецца сабакамі з адзінаццаці гадоў свайго жыцця. Іаанну гэтай пасіяй заразіла дачка.



— Дзеці, якія выхоўваюцца ў сабачай кампаніі, навучаныя адказнасці, — тлумачыць спадарыня Іаанна. — Яны становяцца надта абавязковымі і апякунчымі.

Такой, прынамсі, вырасла іх шаснаццацігадовая дачка.

Іаанна і Мацей — ліцэнзіянаваныя прафесіяналы па сваёй спецыяльнасці. Многія гады ўваходзілі яны ў нацыянальную зборную гонак на сабачых вупражках, перамагаючы на чэмпіянатах Польшчы, Еўропы і свету. Цяпер іх сабакі цешаць, у асноўным, дзяцей на ўсякага тыпу мерапрыемствах амаль у цэлай Польшчы. Нядаўна пабывалі яны ў Варшаве, дзе пракаталі сотні малых пасажыраў.

За добрую забаву крынчане сказалі спадарству Водзінскім гучнае „Дзякуй” і падарылі ім салодкі гасцінец. Спадарыня Альжбета запрапанавала ім у адказ візіт у Крынкі на традыцыйныя лютаўскія запусты — „Мясаед”.

**Іаанна ЧАБАН**
**Фота Альжбеты ЧАРЭМХІ**

# Як нашыя продкі ўяўлялі Вясну?

## (з беларускай міфалогіі)

У людзей усіх рас і нацыянальнасцей ёсць адна прага: наклікаць добрыя змены. Пасля доўгай, марознай зімы ўсе выглядаюць новага сонца, адраджэння прыроды, новых пачуццяў. Гэтае адраджэнне часта называем Вясной.

Яе часта малюем на ўроках мастацтва, падбіраючы далікатныя колеры і краскі. Цікава, што нашае ўяўленне вясны глыбока закаранелае ў старажытнай міфалогіі.

Паслухайце тады, як нашыя продкі тысячы гадоў таму назад уяўлялі Вясну.

Яна прыходзіла на зямлю ў выглядзе маладзенькай прыгожай дзяўчыны з доўгай залатой касой. Яе называлі мілагучна — Лёля.

Лёля, верылі нашыя продкі, была любімай дачушкай марскога цара. Яна ездзіла па моры ў залатой лодцы, вяслуючы сярэбранымі вёсламі. Лёля захапляла сваёй прыгажосцю, таму яе часам клікалі Ляля. Па сённяшні дзень захавалася ў нас параўнанне адносна прыгожых і стройных дзяўчат: *Прыгожая як Ляля!*

Вось як даражэнькія, у маленькім кадры, мы бачым старажытны і адначасова сучасны вобраз вясны. Шмат тут падказак і здагадак — найперш эдзіўляе мора. Папраўдзе, нашая Вясна таксама спалучаецца з вадой. Гэта разумеюць беларусы, якія жывуць ля вялікіх рэк. Ужо ў пачатку месяца лютага, калі пачынаецца на рацэ крыгаход, людзі думаюць пра вясну.

Яны, як тысячу гадоў назад верацы, што неўзабаве, калі вада папльве жывым цячэннем, абавязкова прыплыве да нас у залатой лодцы прыгажуня Лёля...

(Зорка)



*Габрыеля ГОЙКА, Тыльвіца, ПШ у Міхалове*

### Замежная мова

*Сонечным днём*
*Кракадзіл*
*Выбраўся на Ніл.*
*Жабу спаткаў*
*І не здагадаўся як гаварыць*
*З замежным звяром.*

*Ніна МАРЦІНОВІЧ, Лешукі, школа ў Нараўцы*

### Зорачка

*Ясная зорачка,*
*Што свеціш на небе,*
*Прашу цябе, споўні*
*Адно маё жаданне.*
*Прашу цябе, каб*
*Заўжды ты свяціла*
*І жыццё маё развесяліла.*

## Вершы Віктара Шведа

### Тэлефоная размова

— Ці бюро падарожжа?
— Наш нумар, вядома.
— Адпачыць у вас можна
Ад нашае стомы?

— Сума ў вас якая,
Просім, нам падайце.
— Пяцьсот злотых маем.
— Дык адпачывайце!

### Хоча мець святы спакой

Настаўнік Яся сварыць:
— Гультай ты, абібок.
Матуля твая марыць,
Каб вучыўся сынок.

— Вядома, што аб маці
Іншакшы погляд мой.
Хоча мець у хаце
Яна святы спакой

## Польска-беларуская крыжаванка № 7

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3:**

Пуп, гарт, парус, дар, садавіна, парада, рапс, ял, акно, на, парк, актан. Пір, самка, дар, падарак, парадак, вапна, гусі, сон, Ас, не, яна, ток, клан.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Юлія Жукевіч, Міхал Паніквіцкі** з Бабікаў, **Якуб Андрацкі** з Саколкі, **Інэз Дмітрук, Дар'я Кулік** з Орлі, **Магда Рошчанка, Кацярына Лаўрашук, Юлія Скарбіловіч** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!




## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 7-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 2 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Ён нарадзіўся на страсе,
вялікім вырас па крысе.
На сонцы грэцца ледзь пачаў,
Заплакаў моўчкі і прапаў.
Л.....

**2.**
Хто, каб жыць,
Дзень і ноч
Бяжыць і бяжыць,
не збягаючы з воч.
Р...

**3.**
Адна ў лесе
з белаю карой.
Багатая сокам
веснавой парой.
Б.....

**Дзень добры, паважаная рэдакцыя!**

Беларуская мова, месца друкавання, тэмы тэкстаў, якія друкуюцца, дало мне надзею, што і мае вершы, якія пішу амаль кожны дзень з нагоды падзей, навін ужо тры з паловай гады, з восені 2010 года, зацікавяць ваш паважаны калектыў. Высылаю вам свой апошні верш. Маю іх шмат.

Разумею, што гэта не зусім вершы, хутчэй, вершаваныя палітычныя памфлеты, але гэта тое, што адлюстроўвае настрой беларускага грамадства, якому ўсё менш і менш патрэбны... калядкі.

Я з Бераставіччыны. Гэта зусім блізка ад мяжы. **(СВ)**

Ні разу я не патрыёт
Краіны, што народ
Свой ганьбіць, зневажае,
Ні ў якім выглядзе
Яго не паважае...
На месцы тых застаўшыхся
Спартоўцаў,
Што Лукашэнка дзякаваць
Гатовы.
За выступы ў
Дварцах лядовых...
Ім зразумець пара
І ўжо даўно б,
Што выступаюць
За дыктатара-
Злачынцу,
Не за краіну,
Топяць што ў крыві,
У слязах,
У галечы,
Болей ўсё глыбокай...
Няхай ім гэта выйдзе ...
Бокам!
І сцяг, які мо вырываюць
Адзін у аднаго
З патлівых рук,
Не дасць ім годнасці,
Сумлення, славы...
Так думаю не я адна,
Так думае амаль
Увесь народ,
Які ўжо заўтра
Паміраць мо
Будзе з голаду
Духоўнага,
Фізічнага,
Без МОВЫ!

07.02.14 г.

Страшэнная хвароба
З'ядае Беларусь...
Чарнобыль ужо даўно
Памерк
Перад улады гнуссю.
І беларускай нацыі
Не выжыць без
Люстрацыі,
Якую як мага хутчэй,
Зрабіць нам трэба,
Братцы!
На корані нам трэба знішчыць
Усю хеўру, што сядзіць
На шыі нашай...
І трызніць... трызніць...
Сабе як мантру паўтарае,
Што беларусаў мала,
Што сіл яны ўжо не маюць...
І час, на жаль, на іх іграе,
Бо моцы людзям не стае
Ўжо для барацьбы
Свяшчэннай
За будучыню для сваіх
Дзяцей...
Дразды, лядовыя дварцы,
Манежы для футбольнага
Замежжа,
Дажынкі, аграгарадкі,
Яшчэ... кітайскія машынкі...
Пражэкты гэтыя
Пад хеўры воплі
Ўжо выпілі ўсю кроў
Да кроплі...
Ні грошай, ні здароўя,
Ні ўмоў...
Грамадства звонку!
Нам патрэбна
Дапамога!

09.02.14 г.

*Тадэвуш КУНЦЭВІЧ , Лешукі*



## *Мой Беласток*

*Калі адчую радасць у сэрцы*
*І краявід ля свайго вока,*
*То гэта ўсё абазначае:*
*Збліжаюся да Беластока.*

*Вось тут мой кут найдаражэйшы,*
*Тутака ты мяне чакаеш.*
*Сваруся часам з Беластокам,*
*А як кахаю, ты не знаеш.*

*Еду машынай ці чыгункай,*
*Ці самалётам нават хуткім,*
*Ужо хачу быць у Беластоку,*
*Не страціць нават ні мінуткі.*

*Іду Варшаўскай ці Мальмэда,*
*Ці тратуарам Заменгофа,*
*Усе дарогі я кахаю,*
*Бо гэта частка Беластока.*

*Ісці Алеяй мог бы суткі*
*І дарагім мне Антанюкам...*
*Адно жаданне толькі маю:*
*Любоў перадаці ўнукам.*

## *Ані*

*Хвароба ў вочы не глядзіць,*
*Дзяцей тож не мінае.*
*Паваліць беднага, багатага,*
*Прычыну заўжды мае.*

*На інваліднай калясцы*
*Шмат год ты прасядзела,*
*Няраз у падушку плакала,*
*Забаваў мала мела.*

*Усе дзеткі кругом бегалі,*
*Ім часу было мала,*
*А ты сядзела ў акне,*
*Найбольш з усіх пакутавала.*

*Цаню цябе за тое я,*
*Што ты не паддавалася,*
*Хоць многа боляў пражыла,*
*Заўсёды ўсміхалася.*

*Зімою ўчуў я салаўя,*
*Спяваў між дзеравамі,*
*Калі ўбачыў як пайшла*
*Сваімі ты нагамі!*

*Я веру, Анечка, у цябе,*
*Што ўсім прыемнасць зробіш,*
*Ты не кілометр, ані два,*
*А цэлы свет праходзіш!*

*Усім дактарам я дзякую*
*І роднай тваёй маме*
*І найбольш паклонаў аддаю*
*У Божым, святым храме.*

## *Бандары*

*Вярніцесь думкай у даўніну,*
*Няўжо ж ужо забылі?*
*Капалкі дзерлі дарніну,*
*Грузавікі вазілі.*

*Спіхвалі хаты ў гарбы*
*І засыпалі ў ямы.*
*Бывалі часам барацьбы*
*Між вамі — жыхарамі.*

*І мост драўляны на рацэ,*
*Што праслы ўжо хіліліся,*
*Заросша Нарва, што плыве...*
*Мы гэта не забылісь.*

*Цяпер жывеце ў дабры,*
*Без большае турботы.*
*Вось справа толькі ў адным —*
*Што ўсім няма работы.*

*Ці ростам большы, ці малы,*
*Ці чорны, ці ўжо сівы,*
*Прыходзьце ўсе ў Бандары,*
*Там будзеце шчаслівы.*

*Як міла ёсць спаткацца тут,*
*З кветкамі ў руках.*
*Вось тут ёсць мілы, родны кут,*
*Над рэчкай у Бандарах.*

*Тут сонца свеціць найярчэй*
*І мёдам пахнуць нівы,*
*Птушкі спяваюць прыгажэй,*
*Усе жыхары шчаслівы.*

*Каб абышлі мы цэлы свет,*
*Далінамі, гарамі,*
*Прывыклі ўжо праз столькі лет*
*Кахацца з Бандарамі.*

*Звяртаюсь з просьбаю да ўсіх,*
*Праз год каб не забыць:*
*Прашу, прыедзьце ў Бандары,*
*Зноў будзем вас гасціць.*




*Радаслаў ВАСЬКО,*
*Тарнопаль,Гайнаўскі белліцэй*



## *Сябры*

*Заўсёды будзе хтось,*
*Хто дапаможа!*

*Ён будзе пры табе,*
*Усміхнецца і прытуліць,*
*Ён выслухае,*
*Скажа і параіць.*

*Ты памятай аб ім,*
*Ён ува ўсім твой сябар,*
*Ён для цябе найважнейшы*

*Так, як і для мяне,*
*Вы... мае сябры.*

## *Анёл - ахоўнік*

*Ён заўсёды за табой*
*ляціць.*
*Ён заўсёды на цябе*
*глядзіць.*
*Хаця мы аб ім*
*не ведаем.*
*Ты ўвесь час аб ім*
*думаеш.*
*Ты падумаў,*
*хто такі?*
*Ты яшчэ*
*не ведаеш?*
*Дык сядзь,*
*і падумай.*
*Сваім сэрцам*
*слухай.*

*Гэта твой...*
*Анёл-ахоўнік.*

## *Каханне*

*Гэта было,*
*Дзесьці і калісьці.*
*Ужо ніхто*
*Не памятае,*
*Ніхто не думаў*
*І ніхто не ведае.*
*А ці ты*
*Задумоўваўся?*
*Адкуль узялося*
*Каханне?*

*Вельмі простае?*
*Яшчэ падумай...*



# Поездам на Каралеўскі шлях

У 1884 годзе генерал-лейтэнант Струкоў, чатырох афіцэраў-драгуноў і іхні начальнік штаба рашылі абагнаць вярхом чыгуначны поезд. Выехаўшы адначасна з поездам з Беластока ў напрамку Граева, на падарожжа затрацілі чатыры гадзіны і дваццаць хвілін, у тым гадзіну на пераправу цераз раку Бобру. У Граева прыехалі, аднак, раней чым цягнік. Гэты факт вельмі пахвальны кавалерыстам — пісалі тагачасныя газеты, — але ці такое ж можна сказаць пра поезд? На такі поспех не асмеліўся б ніводзін кавалерыст на захадзе Еўропы, а пра Амерыку то і згадваць нечага. Але ці гэтая падзея не будзе нашым самабытнікам агульным аргументам супраць чыгункі? Коні ж гэта наша традыцыя, а чыгунку, вядома, што не мы выдумлялі...

Чыгунка з ходам часу ўсё ж такі стала нашай добрай знаёмай, якую можна ў кампанейскай гутарцы і пахваліць, і сказаць нешта заганнае. Хаця ў наш тутэйшы час яна, так як коні, аддаляецца з нашага жыцця з такой жа адноснай да коней скорасцю, як і ў час яе разгону ў другой палове XIX стагоддзя, усё ж такі крыху маем з ёю дачыненне і яна крыху дзейнічае на нашы эмоцыі, хвалююць нас рознымі сваімі навінкамі...

Вось і я рашыў крыху праехацца гэтым сімвалам прамысловай рэвалюцыі і то акурат па той трасе, па якой адбывалася згаданае вышэй спаборніцтва. Першая нечаканасць з'явілася ў касавым акенцы. Папрасіў я білет да станцыі Кнышын, а касірка, назваўшы цану, восем злотаў і дваццаць грошаў, дадала, што ў Монькі білет таннейшы. Крыху мяне гэта здзівіла, але папрасіў я і той таннейшы білет у Монькі, куды ў паўтара разу далей чым у Кнышын; за білет заплаціў я шэсць з паловай злота.

Мо хто і забрыдкасловіў бы за гэтакі, здавалася б — нелагічны, парадокс у адрас нашых чыгуначных чыноў; цяпер жа нараканне даволі ў нас частае. Людзі наракаюць ад нечага рабіць і робяць гэта з нейкай перыядычнасцю, быццам паўтараючы біблейскае чаргаванне худых і тоўстых гадоў. Калісь было лепш — можна часта ў нас пачуць, але і калісь наракаў народ на яшчэ ранейшае „калісь", хаця глянуўшы з перспектывы больш чым аднаго пакалення — калісь усё ж такі было цяжэй.

Вось і чыгуначныя лініі пракладаліся ў нас калісь здалёк ад гарадоў, каб мясцовым гараджанам было акурат цяжэй карыстацца чыгункай, але каб лягчэй было ёю карыстацца вонкавым фактарам. Тадышнія расійскія ўлады пабойваліся, што польскамоўныя гараджане будуць па чыгунцы пранікаць у вясковы народ і яго паланізаваць. Таму чыгункі ў нас абміналі Кляшчэлі, Сямятычы, Драгічын, Васількаў, Крынкі, Тыкоцін, Ганёндз ці згаданы ўжо Кнышын; чыгуначная станцыя Кнышын аддалена ад аднайменнага горада на тры кіламетры. І яна, можна сказаць — стаіць у чыстым полі. Туды не ездзіць іншы транспарт, які б ствараў канкурэнцыю, з якой трэба было б змагацца паніжэннем цэн. А вось Монькі ў час пабудовы чыгуначнай Берасцейска-Граеўскай лініі былі толькі прысёлкам, якога ў сілу імперскіх настаўленняў не трэба было абмінаць. І станцыю там пабудавалі, якая з ходам часу вырасла ў горад, у які цяпер заязджаюць розныя транспартныя сродкі, змагаючыся за пасажыраў паніжэннем цэн з дапамогай такога прыёму, які атрымаў назву гандлёвай льготы... І цяперашні пасажыр, які выбіраецца на чыгуначную станцыю Кнышын, дзякуючы колішнім стратэгічным палажэнням царскіх чыноў можа выбраць сабе цану білета: або нармальную 8,20 злота, або льготную 6,50; пасажыр можа даць сам сабе льготу!!! І людзі яшчэ наракаюць...

Вось з такімі хітрыкамі заехаў я на станцыю Кнышын, за трыццаць хвілін. З Беластока ў Граева электрычка едзе восемдзесят хвілін. Ад станцыі Кнышын каля кіламетра ў гмінную, і заадно парафіяльную, вёску Крыпна. Касцёл у Крыпне лічыцца санктуарыем. Як падае мясцовая легенда, на тоўстай ліпе, пад якой стаяў човен-дзяўбанка (*krypa*) для паення коней, з'явіўся абраз Багародзіцы. Абраз тройчы заносілі ў касцёл у Кнышыне, але ён кожны раз вяртаўся, заяўляючы за трэцім разам: „Я не буду ў Кнышыне, я астануся ў Крыпне".

Парафіяльны партал інфармуе, што было больш легенд пра цудоўны абраз. Вось адна з іх: „**W Krypnie na pagórku, gdzie stoi kościół między innymi drzewami rosła bardzo wysoka i gruba lipa. Jednego poranka na tej lipie objawiła się Matka Boska i zostawiła tu swój obraz. Ludzie dla tego obrazu postanowili zbudować kaplicę na tym samym miejscu, gdzie stała lipa. Lipę spiłowali i kaplicę postawili ołtarzem do ulicy, a ołtarz tak zbudowali, że pień spiłowanej lipy został pod ołtarzem. W ołtarzu umieścili obraz, do którego ludzie przychodzili i modlili się, i tu doznawali wielu różnych cudów. Pień tej lipy stał potem i pod ołtarzem drewnianego kościoła**".

Партал падае і больш рэальнае меркаванне пра абраз: „**Niektórzy historycy twierdzą, że został ofiarowany do nowo wybudowanej fary knyszyńskiej w 1520 r. przez biskupa Erazma Ciołka — plebana goniądzkiego. Idąc śladem prac konserwatorskich można przypuszczać, że obraz został namalowany niezbyt wprawną ręką i zawieszony na lipie, w miejscu gdzie zatrzymywali się na odpoczynek podróżni, a następnie był trzy razy przemalowywany. Dlatego legenda mówi o trzykrotnym odnoszeniu obrazu do kościoła w Knyszynie. Świadczyłoby to o powstaniu obrazu w XV wieku**".

Цудоўны абраз у Крыпне з'яўляецца копіяй іконы Снежнай Дзевы Марыі з базілікі Санта-Марыя-Маджорэ ў Рыме. Вікіпедыя: „**Ten najczęściej kopiowany i najpopularniejszy wizerunek Najświętszej Maryi Panny pochodzi z XII wieku. Bizantyński w stylu obraz zdobią greckie litery. Obraz przedstawia Matkę Boską Śnieżną obejmującą prawą ręką dzieciątko Jezus, które trzyma na lewym przedramieniu. Widoczna dłoń ozdobiona jest pierścieniem, zaś na naszyjniku wisi duży krzyż. Dzieciątko trzyma w dłoni Ewangelię**".

У 1625 годзе ў Крыпне быў пабудаваны драўляны касцёл, які быў філіяльным Кнышынскай парафіі; паўтара стагоддзя пазней быў там пабудаваны новы, таксама драўляны касцёл. У 1881-1885 гадах, з дазволу самога цара Аляксандра III, быў узведзены ў Крыпне мураваны касцёл, які стаіць да сённяшняга дня. Парафія ў Крыпне была ўстаноўлена яшчэ пазней — у 1906 годзе.

Апісанне Кнышынскай парафіі з 1784 года даволі энігматычна згадвае пра касцёл у Крыпне, якое тут называе Крупнам: „**Krupno Poświątne do tegoż kościoła należące, tamże zaraz Krupno Starościńskie**". Затое цікавае апісанне дарогі, якая зараз называецца Каралеўскім шляхам: „**Droga z Knyszyna do Warszawy (...) Cokolwiek dalej ujechawszy pod Krypnem jest bród na kilkaset kroków długi w jesieni późnej albo na wiosnę uprzykrzony do przejazdu. Za wioską Krypnem na tymże trakcie będzie przynajmniej ośm brodów długich na kilkaset kroków, także w jesieni albo na wiosnę uprzykrzone do przejazdu. Począwszy od Krypna aż do tamy Tykockiej na Narwie jedzie się samemi chrostami, gąszczarzami i tam się kończy parafia knyszyńska**". Так было 230 гадоў таму; сёння між Кнышынам і Тыкоцінам гладкая як стол новая асфальтоўка...

Не зважаючы на колішнія дарогі, **uprzykrzone do przejazdu**, Крыпна знаходзілася на важным каралеўскім шляху, які — цераз Гародню, Кнышын і Тыкоцін — спалучаў сталіцы: Вільню з Варшавай і Кракавам. І тым шляхам, **uprzykrzonym do przejazdu**, напэўна ездзіў кароль Жыгімонт Аўгуст, які вельмі ўпадабаў сабе менавіта Кнышын. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1883 года: „**Ostatnie chwile życia spędził ten król w Knyszynie, otoczony czarownicami i nałożnicami, z których najwięcej podobał sobie w pięknej Giżance, co mu przypominała zmarłą Barbarę. Mniszech przy jej pomocy, wraz z pomocnikami swymi, okradł skarbiec królewski i tak opustoszył, że martwe zwłoki króla, zmarłego w 52 roku życia, d. 7 lipca 1572 r., nie było w co przybrać**". Хто ведае, мо забабонны кароль спыняўся ў Крыпне пад ліпай і апрача чараўніц патрабаваў таксама і прадметаў рэлігійнага пакланення...

Касцельная энцыклапедыя з 1902 года згадвае ў адным месцы пра Крыпна: „**Semeneńko Piotr, jenerał zmartwychwstańców, znakomity teolog i filozof, ur. 29 czerwca 1814 r., około Tykocina (we wsi Krypno?) na Podlasiu, z ojca wschodniej wyznania, niegdyś oficera lejbgwardji, a później urzędnika granicznego, z matki polki kalwinki, acz chrzczony był po katolicku. Gdy rodzice przenieśli się z młodszem rodzeństwem do Pińska, Piotr został na opiece dziadka i babki, w 8 roku życia począł uczęszczać do szkół misjonarskich w Tykocinie. W 11 r. życia sam z własnej pobudki przyjął komunję św. w kościele katolickim, za co go babka obiła i odesłała rodzicom**". Сучасная Вікіпедыя піша пра гэтую асобу крыху інакш: „**Urodził się w Dzięciołowie ok. 50 km na północ od Białegostoku. Pochodził z wielodzietnej rodziny ziemiańskiej. Jego ojciec był Ukraińcem lub Białorusinem. Matka Piotra była kalwinką. Dziecko, z powodu braku duchownego prawosławnego, ochrzczone zostało w katolickim kościele parafialnym Św.Wawrzyńca w Dolistowie. Wychowaniem chłopca zajmowali się protestanccy dziadkowie — państwo Zielińscy. Mimo swojej rezerwy do katolików, dziadek pozwolił ośmiolatkowi na naukę w szkole katolickiej Księży Misjonarzy w Tykocinie. Piotr — w tajemnicy przed dziadkami próbującymi mimo wszystko wychować go w religii protestanckiej — zbliżył się wówczas do Kościoła katolickiego i przystąpił do Pierwszej Komunii św.**".

Гэтыя дзве інфармацыі наконт нараджэння дзвесце гадоў таму на Беласточчыне тэолага крыху супярэчлівыя. Магчыма, што нарадзіўся ён у Крыпне, але магчыма, што нарадзіўся ў Дзенцялове, каля Далістова, якое таксама можна з нацяжкай прылічыць да Каралеўскага шляху. Але як бы там не было, малады Пётр трапляе спачатку пад апеку місіянераў у Тыкоціне. У Тыкоціне ў той час дзейнічала духоўная семінарыя, заснаваная гетманам Браніцкім у 1769 годзе; існавала яна да 1864 года. Сярэднюю адукацыю Пётр Семяненка набірае, м.інш. у Беластоку, пасля вучыцца ў Віленскім універсітэце, які, аднак, пакідае і далучаецца да Лістападаўскага паўстання, а пасля, цераз Прусію, трапляе ў Францыю і там шлях ягонай біяграфіі напраўляецца ў надта цікавыя антуражы. Але пра той шлях — асобным разам...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Злева: Наталля Герасімюк, Міхал Геніюш і Міра Лукша





<- На першым плане каардынатар Камуніката Яраслаў Іванюк

# Кніга Юркі Геніюша ідзе пад стрэхі

Выдаўцы зборніка твораў «Смыком па сэрцы» сына Ларысы Геніюш, Юркі, падаліся ў перасовачнае падарожжа па Падляшшы, дзе жыў і працаваў аўтар. Кніга, выданне Беларускай інтэрнэтнай Бібліятэкі Kamunikat.org, з'яўляецца найбольш багатым зборам твораў, уключаючым паэзію, прозу і драматургію аўтара, які заўчасна адышоў з жыцця ў 1985 годзе. Першая сустрэча з чытачамі адбылася ў Бельску-Падляшскім у марозны вечар 30 студзеня ў Музеі, сабраўшы немалы лік чытачоў, між іншым настаўнікаў Бельскага белліцэя. У бельскіх школах творы Юркі Геніюша вядомыя, між іншым хвалюючы тэкст, прысвечаны вучням і выпускнікам белліцэя — «Смыком па сэрцы».

— Гэта першая кніга ў папяровым выглядзе, выдадзеная ў нас, — сказаў каардынатар Камуніката Яраслаў Іванюк. — На працягу некалькіх гадоў сваёй дзейнасці Камунікат выпусціў некалькі кніг у электронным фармаце. Вядома, таксама кніга Юркі Геніюша праз нейкі час будзе даступна ў электронным выглядзе на нашым сайце. Раней з'явілася некалькі кніжак выбраных твораў Юркі Геніюша. У кнізе «Смыком па сэрцы» мы сабралі, я думаю, амаль усё, што выйшла з-пад пяра Юркі Геніюша. Пры выхадзе кнігі найбольш рупілася жонка аўтара Валяніцна Геніюш, якая ўсё жыццё збірала творы свайго мужа ў друкаваным выглядзе ды рукапісы і машынапісы. Працавалі над зборнікам Міра Лукша і Віталь Луба. Зборнік «Смыком па сэрцы» быў выпушчаны дзякуючы спонсарскай падтрымцы некалькіх асоб. Прыемна, што тут, на Беласточчыне, без сродкаў ад польскай дзяржавы, мы можам апублікаваць кнігу. Цяпер, як даніну часу, у якім ён жыў Геніюш, і людзям яго пакалення прапануем традыцыйны варыянт кнігі.

На сустрэчах, якія вяла Наталля Герасімюк, прысутнічалі сын пісьменніка Міхал Геніюш, і складальніца кнігі Міра Лукша.

Прэзентацыі кнігі «Смыком па сэрцы» адбыліся яшчэ 5 лютага ў Гайнаўцы ў Беларускім музеі ды 13 лютага ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, дзе найдаўжэй працаваў як педыятр, а папраўдзе як сямейны лекар Юрка Геніюш. Сустрэча ў Беластоку адбудзецца ў сакавіку.

**(лук)**




Ёсць гарады і мястэчкі, якія дагэтуль прадстаўлены ў інтэрнэце слаба. Канешне, у цяперашні час іх не вельмі многа, але часцяком даведацца аб жыцці такіх паселішчаў можна толькі з сайта, які прэзентуе органы мясцовай улады. У той жа час існуюць населеныя пункты, аб прадстаўніцтве якіх у віртуальнай прасторы сур'ёзна клапоцяцца тамтэйшыя жыхары. Яны ствараюць разнастайныя сайты, дзе распавядаюць аб сучасным і мінулым тых гарадоў, паведамляюць пра апошнія навіны, даюць шматлікія абвесткі і іншую інфармацыю. Праўда, такія сайты, як сведчыць практыка, маюць часцяком нядоўгае жыццё — яно канчаецца, калі іх уладальнікі страчваюць зацікаўленне, звычайна не падмацаваны фінансава.

Адным з прыкладаў такой з'явы можна прывесці сайт беларускага горада Жодзіна, што ляжыць недалёка ад Мінска. Калісьці ў № 28 за 2006 год „Ніва" пісала аб сайце гэтага горада, што меў фанабэрыстую назву „Незалежная рэспубліка Жодзіна". Так вось цяпер гэтай „рэспублікі" ўжо няма. Затое існуе іншы сайт, які ў многім паўтарае тэматыку зніклага ў віртуальнай бездані. Ён мае менш ганарлівую назву — „Жодзінскі інфармацыйны партал" і месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://licviny.info.**

Са зніклым сайтам гэты партал аб'ядноўвае адсутнасць якіх-кольвек звестак аб уладальніках сайта. Таксама сярод інфармацыі ў шматлікіх рубрыках многа той, якая не тычыцца непасрэдна Жодзіна. Гэта, зразумела, мінус для сайта, які мусіць засяродзіцца з большага на мясцовых падзеях.

Мноства рубрык на сайце не азначае іх якасці. Па-першае, няма нічога, дзе б распавядалася пра яго, як пра праект — дзеля чаго яго стварылі і што праз яго хочуць распавесці інтэрнэт-карыстальнікам. Па-другое, некаторыя рубрыкі маюць не толькі аднолькавы змест, але і аднолькавую назву, што падаецца ўвогуле недапушчальным і сведчыць не толькі аб непрафесіяналізме вэб-дызайнера, які распрацоўваў сайт, але і аб не вельмі дбайным аматарскім падыходзе да працы. Так, на сайце ёсць ажно дзве рубрыкі з назвай „Арганізацыі", але тэксты і там, і там розныя.

Незразумелым ёсць і размяшчэнне выйсця на старонку „Навіны". Яно месціцца не ўверсе цэлага спісу з 29 назваў, а бліжэй да нізу. Што ж тычыцца напаўнення рубрыкі інфармацыяй, то яна, хоць і актуальная, але з большага не мясцовага значэння, аб чым ужо казалася вышэй. Наўрад ці ёсць аўтэнтычна жодзінскім вынаходніцтвам тое, што „сайты рэспубліканскіх ворганаў выканаўчае ўлады не адпавядаюць патрабаваньням заканадаўства", альбо расповед пра ўкраінцаў, што знялі музычны кліп пра Міхаіла Жызнеўскага, што загінуў на Майдане ў Кіеве. Праўда, ёсць на сайце і ўласна жодзінская інфармацыя і яна даволі цікавая. Напрыклад, як не дазваляюць тамтэйшыя чыноўнікі назірацць за выбарчым працэсам альбо як „музыкі, пісьменнікі й мастакі падтрымалі фанатаў БАТЭ і Эўрамайдан" (БАТЭ — гэта футбольная каманда з Жодзіна, заўзятары якой падтрымалі кіеўскі Еўрамайдан, за што былі пакараны мясцовай міліцыяй — заўв. аўтара).

Такая мешаніна тэкстаў як пра даную мясцовасць, так і пра астатнюю Беларусь прысутнічае ў многіх рубрыках сайта. І гэта трэба ўлічваць таму, хто захоча праз яго выдаткаваць свой каштоўны час, каб больш дэталёва пазнаёміцца з жодзінскім жыццём.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

*У памяць беларускага выдаўца і гісторыка*

# 30 гадоў з дня смерці Язэпа Найдзюка



Дзеяч заходнебеларускага вызвольнага руху, выдавец і гісторык Язэп Найдзюк (Александровіч) нарадзіўся ў траўні 1909 г. у вёсцы Бойдаты (па іншых звестках у Рэпалі), што ў Ваўкавыскім раёне. Вучыўся ў сярэдняй школе ў Бойдатах і Вярэйках Ваўкавыскага павета. Па сканчэнні школы ў 1923 г. паступіў у Ваўкавыскую настаўніцкую семінарыю, аднак з-за нястачы сродкаў быў змушаны спыніць вучобу.

З дапамогаю сваяка Фабіяна Ярэміча з 1926 г. Найдзюк уладкаваўся ў Беларускую друкарню імя Францішка Скарыны ў Вільні, быў яе дырэктарам. Апекаваўся кнігарняй „Пагоня", рэдагаваў часопіс „Шлях моладзі" (1929-39), ладзіў культурныя і рэлігійныя імпрэзы, прыналежаў да беларускіх хадэкаў.

З пачаткам Другой сусветнай вайны быў арыштаваны польскімі ўладамі ў верасні 1939 г. і зняволены ў лагеры ў Картуз-Бярозе. Вызвалены толькі пасля прыходу савецкіх войск. Пасля гэтага вярнуўся ў Вільню, працягваў працу ў беларускіх арганізацыях пасля перадачы Вільні Літве.

Пасля нападу фашысцкай Германіі на СССР, увосень 1941 г. пераехаў у Мінск. Працаваў у выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Мінску, быў школьным інспектарам, сябрам Цэнтральнай рады Беларускай народнай самапомачы. Выдаваў часопіс „Беларуская школа". Шырокаму колу Язэп Найдзюк вядомы найперш па папулярным нарысе гісторыі Беларусі „Беларусь учора і сяньня" (кніжка выдадзена ў 1940 г. лацінкай).

У 1943 г. Язэп Найдзюк пісаў у мінскай газеце: „У гэтых варунках кожная новая беларуская кніга цешыць толькі сваім фактам з'яўлення". За гады нямецкай акупацыі яго выдавецтва здолела выдаць 24 беларускія кнігі.

У 1943 г. (на вокладцы 1944) у Мінску падручнік па гісторыі „Беларусь учора і сяньня" быў выдадзены кірыліцай. Выданне кнігі выйшла пад рэдакцыяй І. Сівіцы, польскага немца, працаўніка аддзелу культуры і палітыкі генеральнага камісара Беларусі. Сівіца паправіў тэкст падручніка ў кірунку, які адпавядаў нямецкай палітыцы ў Генеральнай акрузе Беларусь. Да гэтага часткі кнігі друкаваліся ў газеце „Голас вёскі".

Летам 1944 г. Найдзюк выехаў у Нямеччыну, пакінуўшы жонку і дзяцей на Беларусі. Па вайне таемна пераехаў у Польшчу, жыў пад прозвішчам Юзэф Александровіч. Спыніўся ў горадзе Інаўроцлаў, дзе працаваў дырэктарам Куяўскай друкарні, якую пабудаваў у пачатку 1970-х, быў вядомым у горадзе адмыслоўцам-паліграфістам. Займаўся мясцовым краязнаўствам. Пакінуў дзённік і рукапіс „**Paznavajma historyju biełaruskaha narodu**" па гісторыі Беларусі, напісаную ў 1960-х гг. і выдадзеную ў 2010 г. у Беластоку. Сувязь з беларускім рухам падтрымліваў праз свайго брата Чэслава Найдзюка, які жыў у ЗША. Вёў ліставанне з Ларысай Геніюш, Юры Туронкам, Казімірам Грынкевічам і іншымі. Пра тое, хто ён на самой справе польская служба бяспекі выявіла толькі ў 1963 годзе, але на той час ужо не чапала.

На 20-я ўгодкі смерці — 14 лютага 2004 г. грамадскасць Інаўроцлава ўшанавала яго памяць адкрыццём памятнай шыльды на друкарні, імшой у касцёле св. Юзафа, навукова-папулярнай канферэнцыяй. У 2006 г. на доме, дзе жыў Найдзюк, была таксама ўсталявана памятная шыльда.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Для Новай Волі





Чарговы Дабрачынны баль адбыўся 31 студзеня 2014 года ў «Гасподзе» ў Міхалове. Спалучаны ён быў з публічным зборам для Фонду „Падляшскі анкалагічны госпіс" у Новай Волі. Збіраліся грошы на куплю аўтамабіля для перавозу людзей з абмежаванымі магчымасцямі, які будзе часткова фінансаваны ПФРОН.

Дабрачынны баль атрымаўся як арганізацыйны і фінансавы поспех. Сваёй прысутнасцю баль упрыгожылі 164 асобы з Міхалова, Гарадка, Гайнаўкі, Беластока і Варшавы. Госці балю прынялі ўдзел у латарэі, шакаладным вальсе. Вялікай падзеяй было выкананне арганізатарамі ўрачыстага танца — паланеза. Удзельнікі балю на аўкцыёне купілі прадметы за 11 726,24 злотых. Грошы будуць выкарыстаны для названай мэты.

Усё мерапрыемства адбылося ў выдатнай атмасферы. Да танца ігралі прафесійныя музыкі гурту «Axel», музыка якіх парывала ўсіх да танца. Свой талент паказала танцавальная група «SzejkGok» Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове. Зоркай вечара быў гурт «Прымакі» з Міхалова, які захапіў усіх у падарожжа па краіне беларускай, рускай і ўкраінскай песні. Паказ фокуснікаў Тамаша Садоўскага і Кацярыны Мароз зачараваў усіх і перанёс гасцей у свет магіі і чараў. Усе гулялі выдатна да світання!

Арганізатары выказваюць падзяку ўсім удзельнікам балю, якія сваёй прысутнасцю падтрымалі ў дабрачынных мэтах мерапрыемства, спонсарам, якія ахвяравалі каштоўныя прадметы для аўкцыёну і ўсім тым, хто прыняў удзел у аўкцыёне, дапамог сабраць сродкі. Падзяка належыцца за кожны злот, за кожны акт шчодрасці, за дабрыню і за прыхільнасць ідэі вясковага госпіса, які не карыстаецца падтрымкай Нацыянальнага фонду здароўя. Арганізатары дзякуюць асабліва спадарству Гражыне і Анатолю Цімошукам — уласнікам «Гасподы», Кшыштафу Паўловічу і ўсім працаўнікам за падрыхтоўку прыёму, бургамістру Марку Назарку і Анне Дабравольскай-Цыльвік за перадачу фантаў для аўкцыёну, Раману Тарасэвічу за карнэты для торгу і латарэі, Роберту Левандоўскаму за футбольную майку футбольнага клуба «Барусія» Дортмунд, футбалістам са зборнай Польшчы за майку з „Еўра-2012", безыменным ахвярадаўцам і ўсім гасцям, а найбольш — групе валанцёраў, якія не толькі з нагоды балю сваёй актыўнай дзейнасцю моцна падтрымліваюць ідэю госпіса.

— Хай добрае, зробленае для іншага чалавека, шматкроць вернецца да кожнага донара! — кажа Магдаліна Юрчук, каардынатарка дзейнасці госпіса. — Дзякуй і да сустрэчы ў наступным годзе!

**(лук)**

# Нас возіць „Октобус"




Ужо шмат гадоў дзейнічае ў Гайнаўцы Суполка „Октобус" (яе сядзіба — вул. Новаваршаўская, 30/3), якая займаецца пасажырскім транспартам. Возіць яна людзей з Гайнаўкі, Скупава, Нараўкі і з Ляўкова на працу, між іншым, у Гарбары і ў Семяноўку ды назад дадому. Паслугамі суполкі карыстаюццца перш за ўсё жыхары Гайнаўскай і Нараўчанскай гмін, найбольш з тых вёсак, у якія не ездзіць ні адзін аўтобус ПКС. Прыватныя аўтобусы едуць у Гушчэвіну, Альхоўку, Забрады, Прэнты, Семяноўку, Тарнопаль і Лазовае, але таксама і ў Міклашэва, і ў Лесну. На аўтобусных прыпынках чакаюць яго таксама жыхары суседніх з вышэйзгаданымі вёсак.

Цяжка падумаць, што было б, калі б не ездзілі ў нас пасажырскія аўтамашыны „Октобуса". Ад 4 лістапада мінулага года аўтобус пачаў ездзіць дадаткова пасля 10 гадзіны раніцы ў Лешукі цераз Старое і Новае Ляўкова. Раней ён ехаў толькі ў Нараўку і вяртаўся ў Гайнаўку. У суботу і ў нядзелю ў Нараўчанскай гміне не ездзіць ні адзін аўтобус ПКС! Малыя „бусікі" гайнаўскага „Октобуса" едуць штодзень раніцай і ўвечары. У суботу ёсць нават курс у абедні час. З Гайнаўкі ён выязджае а гадзіне 12 і едзе ў Нараўку, Семяноўку і ў Новае Ляўкова (тут ён а гадзіне 13:08). Зараз жыхары гэтых вёсак, калі хочуць ехаць у выхадныя ў Беласток, дык едуць на прыпынкі аўтобусаў ПКС і фірмы „Voyager" у падгайнаўскіх Навасадах або ў Гайнаўцы. Іншага камунікацыйнага спалучэння няма. Пасажырская камунікацыя ПКП даўно заглохла. Таваровыя паязды час ад часу ездзяць на трасе з Гайнаўкі ў Семяноўку і назад. Цягнуць загружаныя вагоны на пад'язныя пуці ў Плянце і ў Семяноўцы.

Варта дадаць, што ветлівыя вадзіцелі аўтобусаў фірмы „Октобус" робяць усе магчымыя намаганні, каб давезці пасажыраў на час. Дзякуй ім за гэта. Ездзяць яны найбольш па павятовых дарогах, на якіх зімой маставыя дрэнна ачышчаныя ад снегу і лёду. На іх не сыплюць пяску нават у час галалёдзіцы.

Для жыхароў большых і меншых вёсак абязлюдзелай г.зв. усходняй паласы ў нашай краіне вельмі важна, што ўсё-такі могуць даехаць у Гайнаўку. Адтуль ужо лягчэй ім дабрацца ў сталіцу нашай дзяржавы (10 студзеня г.г. у пятніцы і ў нядзелі пачаў ездзіць пасажырскі поезд на трасе Гайнаўка — Варшава-Усходняя — Гайнаўка) ды ў шырокі свет. Прыватны „Октобус" вельмі дапамагае ў падарожжы. Хвала яму за гэта.

**(яц)**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — каталонскую пагаворку.

1. сыравіна для пражы, састрыжаная з авечак = 11 _ 18 _ 3 _ 1 _ 8 _;
2. прозвішча выдатнай італьянскай актрысы XIX/XX стагоддзяў (1858-1924; *Eleonora Duse*) = 9 _ 12 _ 19 _ 2 _;
3. дробныя часцінкі ў вадкасці, якія ўчыняюць яе непразрыстай = 21 _ 20 _ 15 _ 16 _;
4. сродак, якім можна паўздзейнічаць на аб'ект = 17 _ 10 _ 13 _ 14 _ 7 _;
5. Павел, канструктар савецкіх штурмавых самалётаў „Су" = 4 _ 22 _ 6 _ 5 _.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 3 нумара

Аса, дух, рэч, цар, яхта.

Рашэнне: **У страхара дах цячэ**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 16.02 — 22.02

**(22.03. — 20.04.)** Многа энергіі. Добрая рука да інтарэсаў. 16-17.02. можаш выплысці на шырокія воды — пакажашся як той, што ведае чаго хоча, задбаеш і пра свае інтарэсы. Але падставіць цябе могуць знаёмыя. Шмат дабра прынясе твая ахвярнасць у сям'і (17-21.02), але не забывайся аб сабе.

**(21.04. — 21.05.)** Задбаеш аб свае інтарэсы і жвава возьмешся за новыя выклікі. Але 17-21.02. добра адумайся, чаго сапраўды хочаш, не ўключайся ў дзеянні, якія могуць прынесці страты. Не вяртайся да былога і не расказвай пра гэта. Добры час пачаць ачыстку арганізма, асабліва задбай аб некароткі сон.

**(22.05. — 22.06.)** Можаш паспяхова сесці на здаровую дыету. Можаш ахаладзіць адносіны з падвёўшымі цябе. 17-18.02. — час на змаганне, рызыку, перамогі. На працы твой вопыт будзе ўражваць, а ў афармленні важных спраў памогуць табе знаёмствы і ўменасць наладжваць кантакты.

**(23.06. — 23.07.)** Асцярожна з фінансамі (не будзь прагны, не слухай парад). Паправа адносін са сваякамі, гармонія дома, асабліва ў Ракаў з 2-6 ліпеня (можаш сарганізаваць вялікі прыём). Цяпер можаш лёгка адмяніцца, трансфармавацца, таксама і візуальна (прычоска, новае адзенне), але не пераборшчвай з пахудзеннем — еж добра, паўнавартасна, збалансавана. Вадапад прапаноў, задумайся прынамсі над адной. Нечаканае павышэнне.

**(24.07. — 23.08.)** Не дзейнічай паспешліва. 16-18.02. разглянься за прапановамі працы. На рабоце будзе ісці ўсё вельмі спраўна. 18-22.02. вельмі вялікая апека і падтрымка сям'і (з 20.02. сам будзеш мець праблемы што важнейшае — праца ці родныя). Да 19.02. вельмі добры час на негацыяцыі, здабудзеш тое што табе абяцалі. Тоўстыя Львы павінны пастарацца есці здаравей.

**(24.08. — 23.09.)** 17-18.02. набярэш ветру ў ветразі! Глянеш з даверам у будучыню. Але поспех на адным полі акупіш пачуццём, што падвёў на іншым. З 21 (да 25.02.) не распавядай сваіх таямніц выпадковым людзям. 17-21.02. можаш пры нагодзе нечаканай сямейнай урачыстасці даведацца чагосьці, у што цяжка будзе табе паверыць.16-18.02. — там, дзе гаворка пра грошы, няхай сантыменты адыдуць убок.

**(24.09. — 23.10.)** З 21 (да 25.02.) суцішся, засяродзься на сабе. Калі штосьці будзе табе дакучаць, не адкладвай візіту ў лекара. Сатурн навучыць цябе ашчаднасці і дбайнасці. Вагі, шукаючыя падзарабіць, знойдуць занятак. Пакуль устрымайся з важнымі рашэннямі; непрыязная асоба на працы схоча табе зашкодзіць. 18-22.02. не ўсё пойдзе па тваіх думках.

**(24.10. — 22.11.)** 16-17.02. атрымаеш парады ад аўтарытэтаў. Будзеш рассейваць аўру таямнічасці, а з 18.02. твая каціроўка на любоўнай біржы пашыбуе вельмі высока! 17-21.02. аддыхаешся ад усялякіх праблем і захочаш не пераймацца нічым, але будзеш мусіў перамагчы стрэс. Не паўтарай неправераных інфармацый. Не паспрачайся з кіраўніцтвам.

**(23.11. — 22.12.)** 21-25.02. мілая атмасфера дома. 16-17.02. прачнецца ў табе літаратурны талент. 17-21.02. справішся з настроем і фізічнымі нямогласцямі; еж цытрусы, зярняты. Кіраўніцтва даверыць табе новыя заданні, будзе табе спрыяць. 18-22.02. вельмі лёгка зрэалізуеш свае прагі, але 17-21.02. пазбягай экзаменаў.

**(23.12. — 20.01.)** 16-22.02. адкрыйся на людзей. Знаёмыя звернуць тваю ўвагу на справы, якія дагэтуль былі для цябе няясныя. Будзеш мацнейшы псіхічна, лепш сабой авалодаеш. 17-21.02. правядзеш селекцыю сярод знаёмых і сяброў. Адчуеш большую тугасць кашалька. А беспрацоўныя Казярогі няхай паставяць на кампетэнтнасць і асабістае абаянне, а запал і амбітнасць дапоўняць рэшту.

**(21.01. — 19.02.)** 16-17.02. мо найлепш засяродзься на сваіх справах і сваім дабры. 17-21.02. знакаміта дагаворышся з людзьмі, асабліва з новымі. Але раптоўныя змены ў жыцці могуць скончыцца стратамі. Можаш выдаткаваць марна або страціць значную суму грошай. Адмоўся ад сумніўных здзелак і адкладзі да будучых часоў большыя пакупкі.

**(20.02. — 21.03.)** 19-20.02. будзеш раздражнены, паставіш справы рубам; супакойся, бо зашкодзіш сабе. Спакой дома; могуць цябе зацікавіць справы з мінулага, мемуары, нейкая ашаламляльная гісторыя. 16-19.02. можа табе пабольваць галава, але 18.02. прыліў энергіі падмацуе цябе і адчуеш вясну ў сэрцы. Прытым будзеш мець шанц на знакаміты бізнес! А Рыбы без работы няхай пакруцяцца сярод знаёмых.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",** BANK PEKAO S.A. O/Białystok 38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Мода на Грузію

## (ч. 7)

**Нашая гаспадыня, спадарыня Гуліко, з усёй душы хацела нам дагадзіць і адначасова нешта падзарабіць. Стыль, у якім яна ладзіла гандлёвыя здзелкі, здаваўся чыстым мастацтвам. На добры дзень яна расхваліла нас... за добры позірк.**



— Па вачах відаць, што дзяўчаткі харошыя!

Прычараваныя, мы ахвотна пасяліліся ў яе кватэры, ды нават прыплюшчылі свае добрыя вочы на ўсякія невыгоды. Найбольш палохала пранізлівая халадэча ў прыбіральні. Каб схадзіць за патрэбай у канец калідора, мы апраналі курткі і зімовыя боты. Думка, што прыйдзецца прыняць душ, явілася дзікім геройствам. Хоць на самой справе было класна, гарачая ванна ў марозным памяшканні напамінала ў нечым лазню.

Пані Гуліко, у сваю чаргу, напамінала добрую цёцю. Яна раіла куды трэба ехаць і як зэканоміць грашакі.

— Вам неабходна з'ездзіць у манастыр Джвары, — сказала.

— А можна туды схадзіць пехатою?

— Ды навошта губляць сілы! Мой сваяк ахвотна вам дапаможа... Ён завязе на гару, пачакае і прывязе назад. Ён палічыць удвая танней чым таксісты, што выстойваюць на вуліцы.

Прапанову з'ездзіць у той жа манастыр мы атрымаем таксама ад уласніка кавярні, куды зойдзем паліць кавы. Ён назаве ідэнтычную суму за сваю паслугу як добры сваяк нашай гаспадыні. Пры ўсім уразіць яго гатоўнасць закрыць у адзін міг свой бізнес і падзарабіць у іншым месцы. Верагодна ішла тут прытомная калькуляцыя — на працягу пяцідзесяці хвілін больш ніхто не зайшоў у яго кавярню. Уласнік, аднак, не збіраўся наракаць на постсезонны застой. Ён пачаў намякаць на дабро і хрысціянскую салідарнасць і на сваю добразычлівую ахвярнасць:

— Грэх не дапамагчы праваслаўным сястрыцам з далёкага краю!

* * *

Не меншую радасць ад падарожжа прыносіла нам язда на маршрутках. Добрая выпадковасць, з якой нам пашанцавала пасяліцца ў Мцхеце, у сэрцы старажытнай Іверыі, натхняла на спакой і маўчанне. Хацелася застыць у гэтым чароўным месцы і адначасова чым хутчэй збегчы, не паспець адчаравацца.

На гэта быў спосаб і шмат магчымасцей. Мцхета ад пачатку явілася нам нечым накшталт прыгараднага квартала Тбілісі, найперш з-за добрай і амаль дармовай камунікацыі між гэтымі гарадамі. Як аказалася, многія ўласнікі крамаў і кавярняў прыязджалі сюды працаваць з Тбілісі. Мы таксама, пагрэўшыся ля цудадзейных месц і раскошных крамаў з залатой біжутэрыяй, патрабавалі вярнуцца на зямлю. Для гэтага хапіла сесці ў маршрутку ды з'ездзіць у Тбілісі. Грузінская сталіца спалучае ў сваім стылі і памкненнях Азію і Еўропу. Найбольш сусветна выглядае прыгарад, абстаўлены магазінамі, гасцініцамі і салонамі амерыканскіх, японскіх ды нямецкіх фірм. Цэнтр, у сваю чаргу, захаваў у сабе расійскія архітэктурныя ўплывы другой паловы XIX стагоддзя і крыху напамінае Адэсу. Апошняе параўнанне датычыць толькі будынкаў — грузінская сталіца жыве ў рытме сваёй неўтаймаванай каўказскай стыхіі. Праўда, на горад мы глядзелі найчасцей з-за акна маршруткі, якая сама па сабе — ідэальны і амаль дармовы сродак камунікацыі. Вуліцы грузінскай сталіцы, здавалася, жывуць самі па сабе. Ніхто тут не спяшаў, не пёрся сляпіцай, не ляцеў стрымгалоў. Наадварот, паўсюдна выстойвалі групы людзей, адны аб нечым талкавалі, іншыя глядзелі выступленні вулічных артыстаў, крыху далей адбываўся канцэрт пад адкрытым небам. Калі мы міналі нейкі сквер, там абавязкова за складным столікам сядзела мужчынская пара ды гуляла ў нарды — каўказскую гульню падобную на шахматы.






Настрой мітусні папаўняла стыхійная гонка машын. Ніхто не трымаўся жалезных прынцыпаў, апярэджванне «на трэцяга» здавалася нормай. Калі маршрутка застрагла ў пробцы, наш шафёр развярнуўся і рушыў зусім іншай трасай. Народ не пратэставаў, наадварот, жэст быў адобраны і расхвалены.

Мы таксама пакарысталіся дапасаванасцю гарадской камунікацыі да патрэб пасажыра, дзякуючы чаму мы адчувалі сябе быццам царыцы. Спачатку гаварылі куды едзем. Шафёр звычайна падвозіў на месца, нават калі там не было прыпынку. І заўсёды вяртаў здачу. Гэта мацавала адчуванне парадку, пра які так любяць гаварыць грузіны.

* * *

Грузінскі парадак заключаўся аднак не ў прынцыпах дарожнай язды, а толькі ў адсутнасці карупцыі і ліквідацыі шэрай гаспадарчай зоны. На ўсе паслугі мы даставалі квіткі. Усе начлегі ў сямейных пансіянатах былі зарэгістраваны, уласнікі патрабавалі пашпарт, трэба было таксама распісацца. За начлег у Кутаісі мы заплацілі дакладна столькі ж як у старажытнай Мцхеце (прыблізна пяцьдзесят злотых). Аднак хіба найбольш уражваў тут пазітыўны імідж паліцыі. Грузінскія паліцыянты выглядалі як амерыканскія калегі. Іх апранулі ў лёгкія ясныя касцюмы, забяспечылі добрымі машынамі, далі прыстойную зарплату. Таксама пабудавалі мадэрныя пастарункі, якія на фоне савецкай забудовы напаміналі банкі або багатыя фірмы...

Нас, зразумела, цягнула на грузінскі базар, дзе як нідзе праяўляўся азіяцкі воблік краіны. Нас з ходу падабралі памагатыя гандляроў. Усе яны хацелі зацягнуць нас у сваю краму або гастраном. У каларытным натоўпе ўсе нешта пакрыквалі, хвалілі, падтыкалі пад нос. Цікава было station назіраць за іерархіяй сярод памагатых. Іх следам узлазілі пятнаццацігадовыя хлопцы, якія прывучаліся да прафесіі.

Грузінскі рынак не абмінула, аднак, глабалізацыя. Большасць тавараў на прылаўках складала кітайскае шмоцце. Нам спадабаліся базары з гароднінай і садавіной. Зусім незвычайна было прадзірацца разам з добразычлівым тлумам праз тунелі, абкладзеныя гурбамі мандарынаў, грэцкіх арэхаў, памідораў, зялёнай цыбулі, яблык, каляровага перцу, баклажанаў...

Проста з мяшка мы набылі розныя віды грузінскай гарбаты. Ну і наткнуліся на духмяныя піражкі хачапуры, якія на базары прадавалі напаўгарачымі, з начынкай на дзесяткі спосабаў.

Пры цэлай мітусні і гарачцы грузінскі базар успрымаўся цёпла. Тут не было ні грама канзумерызму і ашуканства. Грузінскія гандляры ўмелі ацаніць належным чынам інтэлігенцыю пакупніка. Калі ім не шанцавала зрабіць з цябе дурня, у іх вачах бачылася прызнанне і пашана.

Нашая гаспадыня была аднак лепшай. Калі вечарам мы вярнуліся са сталіцы ў яе пансіянат пад пальмай, яна запрасіла нас да сябе на вячэру. Паесці макароны.

*(працяг будзе)*

**Ганна КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960